



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

7 жніўня 2020 года №32 (1319)

18+




Андрэй Дзмітрыеў.



Ганна Канапацкая.



Аляксандр Лукашэнка.



Святлана Ціханоўская.

## ЧАС ВЫБІРАЦЬ

**Апошнія навіны пра выбарчую кампанію чытайце на старонках**


**20-21**


Фота facebook.com/DmitrievAndrei, nn.by, belta.by, tsikhanouskaya2020.by, facebook.com/svcherechen.



Сяргей Чэрачэнь.

**Працягваецца суд над хакеістамі «Дынама-Маладзечна»**


старонка 22


**На Вілейшчыне знайшлі мужчыну, які тыдзень блукаў па лесе**


старонка 4




**Што захоўвалі і знаходзілі нашы чытачы на гарышчах**


старонка 18


**Маладзечанцы зрабілі кнігу для творчасці дзяцей, каб дапамагчы хвораму хлопчыку**


старонка 7



ISSN 1991–7155




Адсканчуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Маладзечанец стаў лепшым кіраўніком будаўнічай галіны

**ААТ «Спецбудмеханізацыя» з'яўляецца адным з вядучых будаўнічых прадпрыемстваў Маладзечна. Гэта прадпрыемства належыць да ліку нешматлікіх арганізацый, якім давяраюць самыя складаныя і адказныя аб'екты. «Спецбудмеханізацыя» выконвае будаўнічыя работы і ў Маладзечне, і па ўсёй тэрыторыі Беларусі.**

На сённяшні дзень прадпрыемства імкнецца ўтрымаць лідзіруючыя пазіцыі, пашырае колькасць паслуг і паляпшае іх якасць. Яно выконвае будаўніча-мантажныя, апрацоўчыя работы, вырабляе асфальтабетонныя і растворныя сумесі, шчэбень, распрацоўвае кар'еры па здабычы пяску і гравію.

Трэба адзначыць, што «Спецбудмеханізацыя» здзяйсняе кантроль якасці будаўнічых матэрыялаў акрэдытаванай лабараторыяй. Арганізацыя мае атэстаты адпаведнасці другой катэгорыі на будаўніцтва і выкананне функцый генеральнага падрадчыка аб'ектаў першага-чацвертага класаў складанасці.

За мінулы год спецыялісты «Спецбудмеханізацыі» выконвалі работы на аб'ектах у Маладзечне і Маладзечанскім раёне, а таксама і на іншых аб'ектах Беларусі. У Маладзечне калектыў арганізацыі задзейнічалі ў будаўніцтве пешаходна-транспартнай сувязі, якая злучае аўтадарогі Маладзечна-Смаргонь і вуліцу Крынічную.

Спецыялісты пракладалі інжынерныя сеткі і займаліся добраўпарадкаваннем тэрыторый індывідуальнай забудовы ў Маладзечне і Радашкавічах. Таксама «Спецбудмеханізацыя» правяла бягучы рамонт платформы з добраўпарадкаваннем станцый Уша і Смаргонь. У Смаргоні мадэрнізавалі ўнутрыдваровую тэрыторыю па вуліцы Савецкай.

Супрацоўнікі арганізацыі працавалі на рэканструкцыі і капітальным рамонце мемарыяльнага комплексу «Хатынь», іх задзейнічалі ў розныя гады на будаўніцтве гарналыжнага цэнтра «Сілічы», рэканструявалі пагранічныя пераходы «Катлоўка», «Беняконі» і «Каменны Лог». Прадпрыемства прыцягвалі да рэканструкцыі шасці беларускіх чыгуначных станцый па ўсёй краіне: Беларусь, Негарэлае, Койданава, Смаргонь, Орша-Цэнтральная, Пухавічы, Гудагай. У 2011 годзе займаліся падрыхтоўкай, будаўніцтвам і добраўпарадкаваннем да «Дажынак», якія праходзілі ў Маладзечне.

Прадпрыемства ад 1991 года ўзначальвае **Канстанцін Манюк**. За 30 гадоў Канстанцін Канстанцінавіч зарэкамендаваў сябе ініцыятыўным і здольным кіраўніком. Ён своечасова і з высокай адказнасцю выконвае службовыя абавязкі, здольны справіцца з вялікім аб'ёмам працы.



Кіраўнік ААТ «Спецбудмеханізацыя» Канстанцін Манюк.

Канстанцін Канстанцінавіч падтрымлівае ў калектыве арганізацыі атмасферу добразычлівасці, зацікаўленасці ў дасягненні пастаўленых мэт. Кіраўніка «Спецбудмеханізацыі» неаднаразова адзначалі спецыяльнымі прэміямі, Ганаровымі граматамі, падзякамі ад раённых, абласных выканкамаў, Нацыянальнага сходу і Прэзідэнта. Манюк стаў Чалавекам года Міншчыны ў 2010-м.

Пад яго кіраўніцтвам прадпрыемства неаднаразова станавілася пераможцам у разнастайных конкурсах. У тым ліку «Спецбудмеханізацыя» 11 разоў перамагала ў розных намінацыях у конкурсе на «Лепшае дасягненне ў будаўнічай галіне Рэспублікі Беларусь». Арганізуе конкурс Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі, Саюз будаўнікоў і Беларускі прафсаюз работнікаў будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў.

Сёлета за вялікі ўнёсак у развіццё будаўнічай галіны і высокія арганізатарскія здольнасці Канстанцін Манюк атрымаў Ганаровы дыплом пераможцы ў намінацыі «Кіраўнік года» па выніках конкурсу «Лепшае дасягненне ў будаўнічай галіне 2019 года». Па словах Канстанціна Манюка, гэту ўзнагароду не атрымалася б узяць без высокапрафесійнага калектыву.

Канстанцін Канстанцінавіч віншуе з надыходзячым прафесійным святам:

– Віншую ўсіх будаўнікоў рэгіёна з Днём будаўніка! Здароўя, шчасця і любові. Самае галоўнае – удачы і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. І ячшэ добрых заказчыкаў!

**Калектыў ААТ «Спецбудмеханізацыя» таксама віншуе Канстанціна Канстанцінавіча Манюка з прафесійным святам – Днём будаўніка, і 60-гадовым юбілеем!**

УНП 600222312

# Калі любіш працу, мінусаў не заўважаеш

## Як пачаць сваю справу, адпрацаваўшы на дзяржаву 20 год

**Больш за 20 год Ларыса Язневіч працавала ў дзяржустановах культуры. Выкладала скрыпку ў музычнай школе, іграла ў сімфанічным аркестры Маладзечанскага музкаледжа, загадвала Домам культуры ў Палачанах. Праца падабалася. Але аднойчы вырашыла пачаць сваю справу па правядзенні свят.**



Фота забяспечана гераіняй публікацыі.

Скрыпку Ларысы гледачы ўспрымаюць па-асабліваму.

МАЛАДЗЕЧНА

Ларыса – прафесійная скрыпачка. Пачынала з музычнай школы. Пасля былі Маладзечанскае музвучылішча і універсітэт культуры. Думкі пра ўласную справу з'явіліся падчас працы ў Палачанскім СДК:

– Неяк мяне і маю таленавітую каманду запрасілі правесці свята для «Камунальніка». Усё атрымалася. Сябры мне казалі тады: «Чаму не пачнеш уласную справу?». Не адразу я змагла рашыцца пайсці ў вольнае плаванне. Разумела: гэта адказна і не так лёгка. Пасля правесці свята запрасіла яшчэ адно прадпрыемства. Зноў поспех і высокая ацэнка працы. Знаёмыя і сябры не раз прасілі зладзіць ім вяселле ці юбілей. Бачыла, што магу, што людзям падабаецца. Сама пісала сцэнарыі, асвоіла эстрадную скрыпку. Шукала ў інтэрнэце п'есы, слухала вядомых скрыпачоў. Адчувала: змагу працаваць. Тым больш, люблю ўсё новае, нязведанае.

### Новы год пачаўся ад 20 снежня

Урэшце Ларыса сышла з дзяржаўнай працы і пачала займацца арганізацыяй і правядзеннем сямейных урачыстасцяў, канцэртаў, прафесійных святаў, карпаратываў для прадпрыемстваў нашага рэгіёна. Усё атрымлівалася, кліенты заставаліся задаволенымі. Канешне, увесь час развівалася, прапаноўвала нешта новае, арыгінальнае, укладалася ў рэкламу. Шмат залежала ад сезоннасці:

– Зімой працы шмат. Ды надыходзіць вясна, час Вялікага посту – і цішыня. Але я ў гэтай сферы не першы год, і пра асаблівасці сезона ведаю. Чаму, папрацаваўшы зімой, не зрабіць адпачынак і правесці яго з сям'ёй. У вольны час таксама папаўняю скрыпічны рэпертуар. Вывучыць новую кампазіцыю – гэта ж справа не аднаго дня, – дзеліцца суразмоўца.

У гэтым сезоне Новы год для Ларысы пачаўся ад 20 снежня. Амаль штодзень былі карпаратывы. 31 снежня – навагодняя ноч у Астраўцы. У шэсць раніцы прыехала ў Маладзечна, а праз тры гадзіны ўжо імчала на свята ў Бягомль, на Віцебшчыну. Крыху на адпачынак – і 7 студзеня, на Каляды, ужо ладзіла юбілей у Красным.

### Як атрымаць бязвыплатную субсідыю на адкрыццё ІП

Каб працаваць з прадпрыемствамі, спатрэбілася ІП. Звярнулася ў райвыканкам. Там расказалі, што можна атрымаць субсідыю на адкрыццё справы.

– У Цэнтры занятасці зарэгістравалася як беспрацоўная, прайшла курсы прадпрымальнікаў, напісала бізнес-план.

**З планам было не вельмі проста: я чалавек культуры, а тут юрыдычныя пытанні. Але было б жаданне, і ўсё атрымаецца, – усміхаецца Ларыса. – План ухвалілі, я атрымала каля 2600 рублёў. Даклала сваіх і набыла апаратуру.**

– І вось у мяне адкрытае ІП, ёсць апаратура і жаданне працаваць. А тут – каронавірус. Але я не пашкадавала, што пачала сваю справу. Вясна для вядучых заўсёды не вельмі актыўная. З задавальненнем бавіла час з сям'ёй, займалася творчасцю. Ведала: у мяне яшчэ ўсё наперадзе. І сапраўды, летам людзі, якія з-за каронавіруса адкладалі вяселлі і юбілеі, пачалі іх спраўляць, – дзеліцца Ларыса.

### А вы чулі панк-рок на скрыпцы?

Музыкант заўважыла, як па-асабліваму людзі ўспрымаюць яе скрыпку. Калі вядучая падчас мерапрыемства дастае музычны інструмент – гэта заўсёды ваў-эфект. Ларыса іграе лірычныя і эстрадныя мелодыі, джаз і панк-рок. Ведае, што сыграць для вялікай кампаніі, а што – як рамантычны падарунак на невялічкім сямейным свяце. Неяк нават дабыла Снягурачкай, што іграла на скрыпцы.

– Кожную ўпадабаную мелодыю хочацца хутчэй вывучыць, каб падарыць людзям хвіліны радасці ад гучання чароўнай скрыпкі, – дзеліцца суразмоўца.

Пытаюся ў Ларысы пра плюсы і мінусы яе цяперашняй працы.

– З плюсаў – магчымасць займацца любімай справай, увасабляць новыя ідэі, здзяйсняць цікавыя праекты, мець адчуванне свабоды і палёту, нібы птушка над морам. І, канешне, атрымліваць асалоду, яркія эмоцыі, шчырыя, цёплыя водгукі, якія натхняюць… А мінусы? Калі працу любіш, мінусаў не заўважаеш, – перакананая Ларыса Язневіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**1248,9** рубля

памер намінальнай сярэдняй зарплаты па Беларусі за чэрвень

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.07 | 6.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4180 | 2.4368 |
| Еўра | 2.8413 | 2.8821 |
| Злоты, 10 | 6.4266 | 6.5736 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3462 | 3.3288 |
| Грыўня, 100 | 8.7371 | 8.8078 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 29.07 | 5.08 |
| Еўра | 2.7900/2.8800 | 2.8200/2.9300 |
| Долар ЗША | 2.3800/2.4600 | 2.4000/2.4900 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 29.07 | 5.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | 20,80 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | 7,60 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | 6,30 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | 16,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,00 | 2,00 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,00 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 2,60 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,50 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,30 | 1,30 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 1,40 | 1,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | 0,90 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 1,70 | 1,20 |
| Памідоры, 1 кг | 2,40 | 2,40 |
| Перац, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | 5,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | 2,50 |
| Вінаград, 1 кг | 5,90 | 5,90 |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Персікі, 1 кг | 4,70 | 4,30 |
| Чарэшні, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Яблыкі, 1 кг | 4,00 | 3,00 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 16,00 | 16,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## Машына заехала ў дрэва. Пасажыра даставалі выратавальнікі

**ВАЛОЖЫН**

31 ліпеня каля сямі вечара выратавальнікам паступіла паведамленне пра дарожна-транспартнае здарэнне каля вёскі Кіявец. Трэба было дэблакаваць пацярпелага.

Калі падраздзяленні МНС прыбылі да месца выкліку, было ўстаноўлена, што легкавы аўтамабіль «Рэно» з'ехаў у кювет і сутыкнуўся з дрэвам. У салоне апынулася заблакаваная пасажырка.

Работнікі МНС пры дапамозе адмысловай прылады дэблакавалі жанчыну, якую з траўмамі рознай ступені цяжкасці брыгадай медыкаў даставілі ў бальніцу. Кіроўца пакінуў аўтамабіль самастойна. Ён не пацярпеў.

**Паводле МНС.**

## Машына перакулілася, адна з пасажырак загінула

**АСТРАВЕЦ**

Смяротнае ДТЗ адбылося 2 жніўня ў Астравецкім раёне на аўтадарозе Рымдзюны-Солы. Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца не справілася з кіраваннем на закругленні дарогі.

За рулём была 40-гадовая жанчына. Аварыя адбылася каля гадзіны дня. Паводле папярэдняй інфармацыі, на закругленні дарогі кіроўца не справілася з кіраваннем, машыну занесла, і яна перакулілася.

У аўтамабілі былі шэсць чалавек. 59-гадовая пасажырка, не прышпіленая рамянём бяспекі, якая ехала на заднім сядзенні, ад атрыманых траўмаў памерла ў бальніцы. У 15-гадовай дзяўчынкі шматлікія раны.

**Паводле МУС.**

## У гімназіі №6 адкрываюць юрыдычны клас

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанская гімназія №6 праводзіць набор у профільны юрыдычны дзясяты клас для навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі Маладзечна і Маладзечанскага раёна.

У далейшым гэтыя навучэнцы змогуць працягнуць вучобу ва ўстановах юрыдычнага профілю, службы Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Для атрымання інфармацыі звяртайцеся да адміністрацыі гімназіі на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 66 або па тэлефоне **(8-0176) 58-03-28.**

**Пётр ВАРАЧКОЎ, начальнік Маладзечанскага РАСК, палкоўнік юстыцыі.**

## Затрымалі грузавы аўтамабіль, у якім везлі больш за дзве тоны спіртнога

**АШМЯНЫ**

У Ашмянскім раёне затрымалі грузавы аўтамабіль. Пры яго даглядзе сярод іншых тавараў знайшлі больш за дзве тоны спіртазмяшчальнай вадкасці.

Тавар належыць 34-гадоваму мужчыну. Кантрафакт быў разліты ў 10-літровыя пластыкавыя каністры.

У працэсе далейшых мерапрыемстваў у іншых пунктах раёна, да якіх мае дачыненне гаспадар грузу, праваахоўнікі знайшлі каля 700 літраў. Гэта вадкасць, якая патрапіла ў Беларусь з Расіі, накіраваная на экспертызу. Канфіскаванае ацанілі больш чым у 27 тысяч рублёў.

**Паводле МУС.**




Тыдзень таму грыбнік пакінуў грыбы ў машыне і знік.

# Знайшлі зніклага грыбніка

### У лесе ён правёў тыдзень

**ВІЛЕЙКА**

**Раніцай 5 жніўня знайшоўся 41-гадовы мужчына, што на мінулым тыдні знік у лесе ля вёскі Добравічы Людвіноўскага сельсавета.**

Нагадаем, грыбнік знік 29 ліпеня каля сямі вечара. У другой палове дня ён паехаў з жонкай збіраць грыбы. Сям'я часова жыла ў вёсцы Замошша, што каля пяці кіламетраў ад Добравічаў. Каля сямі вечара жонка вярнулася да аўтамабіля. Мужа ні ў машыне, ні побач не было. Яго рэчы і грыбы ляжалі ў аўтамабілі.

Зніклага ўраджэнца Расіі, жыхара Барысава, шукалі Вілейскі РАУС і валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл».

– 5 жніўня, каля шасці гадзін раніцы, двое мясцовых жыхароў ехалі на працу. Яны пачулі з лесу крык пра дапамогу. Калі пад'ехалі туды, убачылі знясіленага мужчыну. Той толькі змог сказаць, як яго завуць, і даў нумар тэлефона сваёй маці, што жыве ў Барысаве. Больш нічога сказаць не змог. Мясцовыя патэлефанавалі маці знойдзенага, тая – жонцы, жонка – у Вілейскі РАУС, – расказалі карэспандэнту ў міліцыі.

Па словах міліцыянераў, мужчыну даставілі ў медустанову.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Затрымалі п'янага трактарыста. Ён працаваў на выпрабавальным тэрміне

**ВАЛОЖЫН**

**Днём 27 ліпеня супрацоўнікі ДАІ спынілі для праверкі трактар «Беларус».**

Кіроўца відавочна быў нецвярозы. Трактарыста даставілі для агляду, які паказаў наяўнасць 3,06 праміле алкаголю.

– За нецвярозае кіраванне ў дачыненні да гэтага грамадзяніна склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Трактар дастаўлены на ахоўную стаянку, – паведамілі ва УУС Мінаблвыканкама.

Як высветлілася, трактарыст знаходзіўся ў працадаўцы на выпрабавальным тэрміне. Кіраўніцтва даручыла яму па справах з'ездзіць у вёску, дзе кіроўца і ўжыў спіртное. На зваротным шляху яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Чатыры прыёмы, як захаваць бізнес у крызіс

## Праверанымі парадамі дзеліцца Мінскі мэблевы цэнтр, які базіруецца ў Маладзечне

**Пандэмія з-за каронавіруса стала сур'ёзным выклікам для многіх камерцыйных арганізацый. Беларуска-германскае вытворчае сумеснае прадпрыемства «Мінскі мэблевы цэнтр» стала адной з кампаній, якім дапамагла захаваць эканамічную ўстойлівасць своечасовая гнуткасць.**



Прадукцыя Мінскага мэблевага цэнтра.

Фота spmmc.com

Прадстаўнікі ММЦ падзяліся парадамі, як своечасова змяняцца і выводзіць кампанію на годны ўзровень нават у крызісны перыяд. Якія прынцыпы дазваляюць вырашаць эканамічныя пытанні паспяхова, расказвае кампанія з 30-гадовым досведам.

### 1. Дыверсіфікацыя рынку

Гэты пункт – мэта для кірунку збыту і гарантыя ўстойлівай працы. Высокая канкурэнцыя – гэта і выклік, і магчымасць. ММЦ развівае не свой мэблевы брэнд, тут займаюцца вытворчасцю мэблі пад заказ па эскізах заказчыкаў. Таму большасць мадэляў абароненая эксклюзіўнымі правамі.

**У краінах Заходняй Еўропы набыццё мэблі на душу насельніцтва складае 210 еўра ў год, а ў Беларусі – 25 еўра.**

Дыверсіфікацыя рынкаў збыту – працэс пастаянны. У пачатку працоўнай дзейнасці асноўнымі кірункамі былі Германія і Францыя. Цяперашняя геаграфія паставак уражвае: Германія, Расія, Італія, ЗША, Кітай, Францыя, Канада, Нідэрланды, Польшча, Літва. Свой унёсак у гэта дало супрацоўніцтва з кампаніяй IKEA, якая пастаўляе прадукцыю ў розныя куткі свету.

Вялікую ўдзельную вагу, каля 30%, складае расійскі рынак. Набірае абароты зацікаўленасць і на айчынным рынку.

Такім чынам збыт ідзе ў розных кірунках.

**І калі адзін з каналаў раптам перастае прыносіць прыбытак у звычайным рэжыме, кампанія не спыняе працу.**

Прадпрыемства заўсёды гатовае да супрацоўніцтва і з зацікаўленасцю асвойвае новыя краіны на карце свету.

### 2. Інвестыцыі, арыентаваныя на сусветныя тэндэнцыі

Міланскі цэнтр прамысловых даследаванняў CSIL ацэньвае, што пасля 2020 года сусветнае спажыванне мэблі будзе расці штогод на 3% у рэальным выяўленні. Пры гэтым густы на мэблю глабалізуюцца. Спажыўцы ўсё часцей імкнуцца набыць такую мэблю, якая падобная да абраных карцінак у інтэрнэце або часопісах. Ва ўмовах пандэміі многія мэблевыя гіганты паглядзелі ў бок анлайн гандлю як на адзін з асноўных каналаў продажаў.

Для ММЦ знаёмства з інтэрнэт гандлем адбылося дзякуючы супрацоўніцтву з кампаніяй OTTO. Адна з асаблівасцяў, што напаткала ў супрацоўніцтве з каталогам OTTO, – упакоўка мэблі. Тавар дастаўляюць праз пошту, таму запакоўваць трэба ў пяціслойны кардон. З улікам росту вытворчасці для фірмы OTTO прадпрыемства прыйшло да куплі ўстаноўкі для вырабу з Z-кардону раскрутак упаковачных каробак.

Ён зручна наразаецца, і колькасць адходаў змяншаецца на 30% і больш.

**ММЦ нават у складаныя перыяды адсочваў сусветныя тэндэнцыі ў мэблевай індустрыі не толькі ў галіне дызайну, але і ў выкарыстанні аддзелачных матэрыялаў.**

Інвестыцыйная палітыка прадпрыемства – гэта пастаянныя ўкладанні сродкаў у вытворчасць, каб выпускаць сучасную, якасную і экалагічна бяспечную прадукцыю.

Мэбля павінна быць такой, якой яе хацеў бы бачыць пакупнік. Больш за тое, яе павінны даставіць так, як пакупніку зручна. ММЦ своечасова знайшоў магчымасць адаптаваць вытворчасць пад абодва гэтыя патрабаванні.

**Калі ў 2016 годзе пастаўкі для OTTO складалі 5,2% у агульным аб'ёме адгружанай прадукцыі на экспарт, то па выніках 2019 яны на другім месцы па гэтым паказчыку пасля IKEA і займаюць 17,1%.**

### 3. Пастаяннае абнаўленне асартыменту

ММЦ дакладна ведае, што 30 год мода на адну і тую ж мадэль трымацца не можа. А калі ўвесь тэхналагічны працэс завязаны на нешта адно, гэта сур'ёзная небяспека. Неабходна пастаянна сачыць за тым, каб вытворчасць паспявала змяняцца з перавагамі людзей. ММЦ пастаянна папаўняе асартымент прадукцыі новымі мадэлямі, штомесяц выпрацоўваюць каля 200 мадэляў мэблі. Галоўнае, нельга зніжаць планку якасці. Водгукі пра якасць і надзейнасць – адзін з пунтаў, які заахвоціць спажыўца абраць ваш тавар.

### 4. Не працаваць на склад

Рабіць прадукцыю, не прааналізаваўшы збыт, – шлях да запаўнення склада.

Першапачаткова выбраны кіраўніцтвам курс на вытворчасць мэблі строга пад заказ і адсутнасць складоў у агульнапрынятым разуменні навучыў разлічваць свае магчымасці, таму адгрузкі гатовай прадукцыі распісаныя па датах.

Падчас пандэміі былі моманты, калі аказалася складана штосьці спрагназаваць нават на месяц наперад. Было незразумела, як будзе з наступнымі пастаўкамі мэблі з-за закрыцця складоў і магазінаў большасцю заказчыкаў ММЦ. У гэты перыяд, калі ў некаторых краінах Заходняй Еўропы ўвялі каранцін, менавіта продажы праз каталог сталі выратаваннем.

**Адгрузкі пакупак мэблі праз інтэрнэт за некалькі месяцаў выраслі амаль удвая.**

І некалі смелае рашэнне аб супрацоўніцтве з каталогам OTTO дало магчымасць не зніжаць аб'ёмы вытворчасці ў няпросты для ўсіх перыяд.

Дзякуючы гнуткасці і магчымасці хутка мяняцца кампанія змагла ўтрымацца на плыву ў складаны перыяд пандэміі.

СП «ММЦ» ААТ УНП 6000003222

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# Зрабілі кнігу для творчасці дзяцей, каб дапамагчы хвораму хлопчыку

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Дабрачынная арганізацыя «Бумеранг дабра» арганізавала акцыю ў падтрымку пяцігадовага Жэні Трубача з Маладзечна.**

Мэта праекта – сабраць грошы на рэабілітацыю хлопчыка. Усе сабраныя сродкі ідуць менавіта на гэта.

### Што ўяўляе сабой кніга

Зборнік для творчасці «Мы ў справе» – гэта 80 старонак, гатовых для раздрукоўкі дома. Старонкі аптымізаваныя для эканоміі тонера і фарбаў падчас друку. Тут вы знойдзеце лабірынты, рэбусы, крыжаванкі, лагічныя задачкі, расфарбоўкі і іншае.




Зборнік для творчасці «Мы ў справе» – гэта 80 старонак, гатовых для раздрукоўкі.

Фота забяспечана арганізацыяй «Бумеранг дабра».

Кніга для творчасці складзеная для дзяцей ад чатырох да васьмі год. Яна ўяўляе сабой камплект самых розных заданняў. Заданні склалі 23 аўтары з некалькіх краін, якія далучыліся да праекта. Усе заданні пададзеныя ў гульнявой форме. Яны трэніруюць лічэнне, логіку, пісьмо, знаёмяць з замежнымі мовамі і пашыраюць кругагляд. Заданні можна выконваць як з бацькамі, так і самастойна.

У кнізе ёсць блок заданняў ад «Рэгіянальнай газеты». Для тых, каму не хапае дзіцячых практыкаванняў на беларускай мове, яны станўць добрым дапаможнікам.

Мы падрыхтавалі сюрпрыз для тых, хто выканае заданні ад нас. Вы можаце не толькі паўдзельнічаць у дабрачыннай справе і атрымаць развіццёвую кнігу, але і атрымаць за гэта ўзнагароджанне. Дасылайце фотаздымкі выкананых заданняў ад «Рэгіянальнай газеты», а гэта тры практыкаванні на беларускай мове, на пошту **regionnews@rh.by** і выкладзіце ў інстаграм з адзнакай **@rg_rhby** да 30 верасня 2020 года. Аўтараў першых пяці работ, выкананых найбольш правільна, рэдакцыя адзначыць.

### Як далучыцца да акцыі

Каб атрымаць кнігу, трэба зрабіць ахвяраванне на лячэнне Жэні. Аплаціць можна анлайн банкаўскай карткай на сайце**bumerangdobra.by.** Пасля таго, як вы паспяхова правядзеце плацеж, вам адкрыецца спасылка на кнігу.

Можна аплаціць праз АРІП наступным шляхам: АРІП – Дабрачыннасць, грамадскія аб'яднанні – Дапамога дзецям, дарослым – Бумеранг дабра – Дабрачынныя ўнёскі – 10 рублёў. Квітанцыю аб аплаце высылайце на электронную скрыню **bumerangdobramolo@mail.ru.** У адказ вам вышлюць спасылку на скачванне зборніка.

Ёсць магчымасць атрымаць кнігу «Мы ў справе» ў раздрукаваным выглядзе. Яны ёсць у наяўнасці ў дзіцячым канструктарскім клубе «ЛЕГАЛЕ» ў гандлёвым цэнтры «Спадарожнік-2» па Вялікім Гасцінцы, 67-а на чацвёртым паверсе. Удакладняйце дэталі па тэлефоне **(8-029) 823-23-53.**

Жыхары іншых гарадоў Беларусі могуць заказаць раздрукаваную кнігу поштай. Для гэтага прайдзіце наступны шлях: АРІП – Дабрачыннасць, грамадскія аб'яднанні – Дапамога дзецям, дарослым – Бумеранг дабра – Дабрачынныя ўнёскі – 20 рублёў. Квітанцыю аб аплаце накіруйце на скрыню **bumerangdobramolo@mail.ru.** У лісце пазначце прозвішча, імя і імя па бацьку, нумар тэлефона і адрас.

Адзіны законны спосаб атрымаць кнігу – зрабіць ахвяраванне. Арганізатары заклікаюць паважаць працу аўтараў і не распаўсюджваць публікацыю. Камерцыйнае выкарыстанне кнігі забароненае.

**Аддзел інфармацыі.**

## Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў скаргу смаргонца

**СМАРГОНЬ**

Пра гэта нам паведаміў праваабаронца са Смаргоні **Алесь Дзергачоў**.

Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў скаргу жыхара Смаргоні на парушэнне Беларуссю трох артыкулаў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах пры размяшчэнні жыхара Смаргоні **Сяргея Цыркуновіча** ў ЛПП.

Рашэннем суда Смаргонскага раёна ад 9 жніўня 2017 года жыхар Смаргоні Сяргей Цыркуновіч быў накіраваны ў лячэбна-працоўны прафілакторый (ЛПП) тэрмінам на адзін год.

Гэта рашэнне ён абскардзіў у Гродзенскім абласным судзе, але безвынікова. У сваім вызначэнні суд адзначыў, што нормы Міжнароднага пакта ў дадзеным выпадку не парушаныя. Пасля васьмімесячнага знаходжання ў ЛПП Сяргея Цыркуновіча датэрмінова вызвалілі.

Пасля вызвалення ён накіраваў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека, у якой абвінаваціў Рэспубліку Беларусь у меркаваным парушэнні трох артыкулаў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах пры размяшчэнні яго ў ЛПП. Гэта артыкул 7 (ніхто не павінны падвяргацца катаванням або жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню або пакаранню, якія прыніжаюць годнасць), артыкул 8 (ніхто не павінны ўтрымлівацца ў падняволным стане і прымушацца да прымусовай або абавязковай працы), артыкул 9 (кожны чалавек мае права на свабоду і асабістую недатыкальнасць).

**Паводле паведамлення Камітэта ад 8 ліпеня 2020 года, скарга зарэгістраваная і ёй нададзены нумар 3783/2020.**

Пры гэтым Рэспубліцы Беларусь у сувязі з распаўсюджаннем каронавіруса прапанаваны падоўжаны тэрмін на выказванне пярэчанняў на скаргу: замест прадугледжаных працэдурай шасці месяцаў дадзена восем.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Расіі выйшла кніга перакладаў вершаў Міколы Шабовіча

**МЯДЗЕЛ**

У канцы ліпеня ў Екацярынбургу выйшла кніга «Пакуль світае неба цішынёю». У ёй – выбраныя вершы беларускага паэта, ураджэнца Мядзельшчыны, **Міколы Шабовіча** ў перакладах на рускую мову. Пераклаў вершы паэт і мастацтвазнаўца з Санкт-Пецярбурга **Глеб Пудаў**.

– Творчасць Міколы Шабовіча – адна з вяршынь сучаснай беларускай паэзіі. Але на сённяшні ёсць пераклады на рускую мову толькі асобных яго вершаў. Неабходнасць у зборніку, які б даваў уяўленне пра творчасць Шабовіча, была ўжо даўно, – лічыць Глеб Пудаў.

У кнізе – вершы пра радзіму, развагі пра жыццё, пейзажная лірыка. Але галоўнай тэмай у творчасці Міколы Шабовіча з'яўляецца каханне. Менавіта яму і прысвечаная большасць твораў, адзначае перакладчык.

Глеб кажа, што сам спадар Мікола актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы кнігі. Перакладчык спадзяецца, што пасля знаёмства з кнігай рускія чытачы больш даведаюцца пра асобу і творчасць беларускага паэта Міколы Шабовіча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Фізічны пуск БелАЭС плануць правесці ў бліжэйшыя дні

**АСТРАВЕЦ**

Мінэнерга паведамляе, што ўжо падрыхтаваныя тэхналагічныя сістэмы і абсталяванне для пачатку фізічнага пуску, праведзеныя іх выпрабаванні, персанал БелАЭС падрыхтаваны і прайшоў неабходныя трэніроўкі для выканання аперацый па загрузцы паліва.

Фізічны пуск энергаблока, тлумачыць Мінэнерга, пачынаецца з загрузкі ядзернага паліва ў актыўную зону рэактара. Усяго ў рэактар будзе загружана 163 цеплавыдзяляльныя зборкі з наступным уключэннем галоўных цыркуляцыйных помпаў для разагрэву цепланосьбіта першага контуру рэактарнай установкі да праектных параметраў. Пасля гэтага рэактар выведуць на мінімальны кантраляваны ўзровень з правядзеннем неабходных выпрабаванняў і наступовым павышэннем узроўню магутнасці рэактарнай установкі.

Фізпуск з'яўляецца адным з ключавых этапаў праекта па ўводу энергаблока ў эксплуатацыю. Галоўная яго задача – пацвердзіць надзейнасць і бяспеку працы энергаблока на праектных параметрах.

**Паводле Мінэнерга.**

## Пачалі рабіць лабараторныя тэсты на каронавірус

**АСТРАВЕЦ**

У Астравецкую цэнтральную раённую клінічную бальніцу паступіла новае абсталяванне – сучасная ПЛР-лабараторыя. Яе бальніцы падарыў «Росатам», паведамляюць у Астравецкай ЦРБ.

– 23 ліпеня ў Астраўцы ў тэставым рэжыме пачала працаваць ПЛР-лабараторыя. Тут мы будзем праводзіць абследаванне пацыентаў на розныя інфекцыйныя захворванні метадам палімеразнай ланцуговай рэакцыі, – распавёў загадчык клініка-дыягнастычнай лабараторыі **Павел Глаўдзель**. – Першы этап – абследаванне на наяўнасць каронавіруса.

ПЛР-лабараторыя месціцца ў клініка-дыягнастычнай лабараторыі. Але ўваход у яе асобны. Займае яна тры кабінеты. Трапіць сюды можна толькі праз спецыяльны шлюз і ў спецыяльнай вопратцы.

ПЛР-дыягностыка (палімеразная ланцуговая рэакцыя) – высокадакладны спосаб даследавання на наяўнасць віруса.

**Аддзел інфармацыі.**




Збіраць ягады па правілах важна, каб праз год сабраць ураджай на гэтым жа месцы.

# Як экалагічна збіраць грыбы і ягады

**Збіраць дары лесу важна так, каб і на наступны год можна было збіраць іх на гэтым жа месцы. Эксперты экалагічнага руху «Зялёны дазор» склалі рэкамендацыі, як гэта рабіць з найменшай шкодай для прыроды.**

### Грыбы

Збіраць грыбы трэба такімі спосабамі, якія не наносяць шкоду грыбніцы. Зразайце нажом у асновы грыба або асцярожна выкручвайце.

**Нельга разграбаць падсцілку для збору грыбоў, асабліва калі збіраеце лісічкі.**

Нельга збіраць лісічкі з шапачкай дыяметрам менш за паўтара сантыметра.

### Ягады

Збіраць ягады ў лесе трэба спосабамі, якія не нанясуць шкоду ягаднікам.

Нельга:

– прымяняць ручныя прыстасаванні, якія шкодзяць зараснікі, зніжаюць ураджай ягад у наступныя гады, супярэчаць патрабаванням «Інструкцыі аб спосабах і прыстасаваннях для збору дзікарослых ягад у лясным фондзе» Міністэрства лясной гаспадаркі.

– збіраць брусніцы, калі недаспелых ягад больш за 1% ад сабранай масы.

– збіраць журавіны, калі недаспелых ягад больш за 5% ад сабранай масы.

Правілы збору ягад з выкарыстаннем ручных прыстасаванняў:

**– збіраць ягады ручным спосабам трэба рухамі знізу ўверх**

– пры зборы чарніц і буякоў прыстасаванне накіроўвайце пад вуглом да верхняй часткі куста. Нельга, каб у зубцы трапілася тоўстая ніжняя частка атожылкаў.

– пры зборы журавін прыстасаванне павінна рухацца па паверхні імху і атожылкаў журавін.

– прыстасаванне для збору дзікарослых ягад складаецца з зубцоў, ёмістасці накапляльніка, ручкі і адказвае наступным патрабаванням: адлегласць паміж зубцамі не менш за паўсантыметра. Корпус прыстасавання і зубцоў – з пластмасы, металу, драўніны, гумы або іх камбінацый. У прыстасаваннях няма рэжучага краю ў зоне зрывання ягад.

### Калі вы бачыце парушэнні

У выпадках, калі пры вас парушаюць правілы збору ягад або грыбоў, варта зрабіць наступнае.

**Папрасіце парушальніка спыніць незаконныя дзеянні. Паведаміце, што гэта супярэчыць заканадаўству, што за няправільнае збіранне грыбоў ці ягад прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.**

Калі чалавек працягвае парушаць, сфатаграфуйце або запішыце на відэа факт, запомніце месца парушэння. Звярніцеся па складанне пратаколу ў адну з наступных службаў: мясцовы лясгас, органы ўнутраных спраў, тэрытарыяльнае падраздзяленне Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Або дзяржаўныя прыродаахоўныя арганізацыі, што кіруюць запаведнікамі, нацыянальнымі паркамі, заказнікамі, калі гэта было на іх тэрыторыі.

### Расліны з Чырвонай кнігі

Забаронена збіраць і знішчаць расліны або іх часткі, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу.

**Збіраць дзікарослыя расліны можна толькі пры наяўнасці дазволу, якое выдала Міністэрства аховы прыроды.**

Калі вы сталі сведкам, што хтосьці збірае расліны, ягады або грыбы, занесеныя ў Чырвоную кнігу, зрабіце наступнае. Упэўніцеся, што расліна занесеная ў Чырвоную кнігу. Папярэдзьце чалавека, што ён нарыхтоўвае расліны або грыбы, занесеныя ў Чырвоную кнігу. Што яго дзеянні могуць нанесці шкоду навакольнаму асяроддзю і, магчыма, з'яўляюцца супрацьпраўнымі. Пацікаўцеся, ці мае ён дазвол ад Мінпрыроды.

Калі дазволу няма, паведаміце, што дзеянне супярэчыць заканадаўству, за яго прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.

**Калі чалавек працягвае дзеянні, зафіксуйце час і месца парушэння, сфатаграфуйце або запішыце на відэа, запомніце прыкметы парушальніка.**

Запішыце імёны і прозвішчы сведкаў, а таксама іх кантакты. Звярніцеся за складаннем пратакола ў раённую інспекцыю Мінпрыроды або ў Дзяржаўную інспекцыю.

**Паводле даведніка «Зялёнага дазору».**

● ПАДЗЕЯ ТЭЛЕТЫДНЯ

# Уручылі кінапрэмію «БАФТА»



Фота bafta.org.

**У гэтым годзе ўручэнне прэстыжных прэмій Брытанскай акадэміі кіно і тэлевізійных мастацтваў («БАФТА») абышлося без чырвонай дарожкі. Ва ўмовах пандэміі каранавіруса шоу праходзіла ў віртуальнай рэальнасці.**

У студыі прысутнічаў цырымоніймайстар **Рычард Аёадзі**, і ў яго нават было некалькі гасцей, але гэтым усё і абмежавалася. Частку шоу трансліравалі на брытанскім тэлебачанні.

Усім намінантам загадзя прапанавалі даслаць запісаную прамову з падзякай, калі б яны выйгралі ў сваёй намінацыі. Гэту прамову меркавалі запусціць у жывы эфір у выпадку іх перамогі.



### Перамога «Чарнобыля» і нечаканасць ад «Дрэні»

«Чарнобыль», як многія і прадказвалі, атрымаў прэмію «БАФТА» як лепшы міні-серыял. Міні-серыял «Чарнобыль» распавядае аб выбуху на АЭС у 1986 годзе. Ён атрымаў дзевяць узнагарод з чатырнаццаці. Брытанскі акцёр **Джарэд Харыс**, які сыграў ролю акадэміка **Валера Лягасава**, атрымаў «Бронзавую маску» (узнагарода «БАФТА») у катэгорыі «Лепшая мужчынская роля».

А вось з серыялам «Дрэнь» атрымалася не зусім так, як многія думалі. Выканаўца галоўнай ролі **Фібі Уолер-Брыдж** засталася без прэміі, а прыз за выкананне лепшай жаночай камедыйнай ролі дастаўся яе экраннай сястрэ **Сіан Кліфард**. Кліфард была так здзіўленая, што ледзь не выпусціла мабільны тэлефон у жывым эфіры. Пераможцам у намінацыі за лепшы камедыйны сцэнарый стаў Джэмі Дземетрыў з серыялам «Стас усё здасць».

У астатніх намінацыях абышлося без асаблівых сюрпрызаў.

### Спецыяльная прэмія і як праходзіла шоу

У агульнай складанасці ў ходзе цырымоніі ўручылі 26 узнагарод, у тым ліку і спецыяльную прэмію брытанскаму акцёру і прадзюсару **Ідрысу Эльбе**. Зорка «Лютэра» і «Праслушкі» ўдастоіўся такога гонару за сваё акцёрскае майстэрства і прасоўванне новых талентаў.

Трэба сказаць, што, нягледзячы на багацце ўзнагарод, цырымоніймайстар Рычард Аёадзі зусім не стаміўся. У яго было шмат памочнікаў, якія змянялі адзін аднаго ў студыі. Гэта былі такія зоркі, як **Грэг Дэвіс**, **Стэйсі Дулі**, **Джэсіка Хайнс** і двое акцёраў з серыяла «Нармальныя людзі» – **Дэйзі Эдгар-Джонз** і **Пол Мескал**.

Але і гэта не ўсё: па відэасувязі дапамагалі раздаваць прэміі **Джэф Голдблюм**, **Майкл Шын**, **Дэвід Тенант** і **Фрог Кермен**, а таксама **Рут Мэдлі**, **Крыс О'Даўд** і **Білі Портэр**.

Аўстралійскі комік **Цім Мінчын** выканаў дзве песні, адну з якіх ён напісаў адмыслова з нагоды цырымоніі ўзнагароджання.

Цырымоніі, якая доўжылася паўтары гадзіны, папярэднічала спецыяльнае шоу, якое вёў комік **Том Ален**.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 10 АВГУСТА

**7.00, 15.50, 17.50, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.55, 17.45, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.20, 16.00** «Мульт-парад».
**8.30, 19.50** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** Мультфильмы.
**11.30** Х/ф **«ТРЕНЕР».**
**13.45** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.35** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.10** Х/ф **«ПСЫ ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**17.55** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПОЕЗД В ПУСАН».**
**23.10** Х/ф **«ОМЭН. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**

### ВТОРНИК, 11 АВГУСТА

**7.00, 14.50, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 8.15, 15.00** «Мульт-парад».
**7.30, 14.55, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**9.30** «Сюда приходят чтобы уйти» СБ ТВ.
**10.20** Х/ф **«ПОЕЗД В ПУСАН».**
**12.15, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.35** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**15.30** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ БОГАТЫРЬ».**
**17.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПЕРВОМУ ИГРОКУ ПРИГОТОВИТЬСЯ».**
**23.35** Х/ф **«ОМЭН: ПРОБУЖДЕНИЕ».**

### СРЕДА, 12 АВГУСТА

**7.00, 15.15, 21.10, 2.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 8.15, 15.30** «Мульт-парад».
**7.30, 15.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.25** Х/ф **«ПЕРВОМУ ИГРОКУ ПРИГОТОВИТЬСЯ».**
**12.45, 18.05** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.00** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**15.45** Х/ф **«ЛЕОН».**
**18.00** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗАБЫТОЕ».**
**0.40** Х/ф **«ГРЕЙХАУНД».**

### ЧЕТВЕРГ, 13 АВГУСТА

**7.00, 15.45, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 8.20, 15.50** «Мульт-парад».
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** Д/ф.
**11.00** Х/ф **«ДВЕ КОРОЛЕВЫ».**
**13.15, 18.10** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.30** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.05** Х/ф **«УБИЙСТВО В ВОСТОЧНОМ ЭКСПРЕССЕ».**
**18.00** «Фешн is my профешн».
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«БЕССМЕРТНЫЕ».**
**23.20** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ».**
**1.10** «Погода» + «Эрана» + Аэровидео.

### ПЯТНИЦА, 14 АВГУСТА

**7.00, 14.30, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 14.35** «Мульт-парад».
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.20** Т/с **«ИГРА.РЕВАНШ».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** Х/ф **«БЕССМЕРТНЫЕ».**
**12.05, 17.55** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.15** Т/с **«ЖЕНИТЬСЯ ИЛИ КАК?».**
**16.00** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ».**
**19.10** «Погода».
**19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** «Герои комиксов на экране». «Чудо женщина».
**23.40** Муз/ф **«Племя избранных».**
**1.35** «Погода» + «Эрана» + Аэровидео.

### СУББОТА, 15 АВГУСТА

**7.00, 15.00, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.35, 17.35** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«ПРОСТАЯ ИСТОРИЯ».**
**10.10** Х/ф **«ВЛАСТЬ И ЛЮБОВЬ. НАЧАЛО ЛЕГЕНДЫ».**
**15.05** «Смотрим всей семьей». «Философский камень».
**17.40** Х/ф **«ОСКАР».**
**19.05** «Погода».
**19.10** Х/ф **«ПАСПОРТ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ИСТОРИИ ЗВЕЗДНЫХ ВОЙН».**
**23.35** Х/ф **«ЦЕЛУЯ ДЕВУШЕК».**
**1.30** «Погода» + Гороскоп на август.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 АВГУСТА

**7.00, 13.45, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Аисты».
**8.30, 15.40** «Приколы 13-й школы».
**8.35** «Готовь как шеф».
**9.00** Х/ф **«ВЛАСТЬ И ЛЮБОВЬ. НАЧАЛО ЛЕГЕНДЫ».**
**13.50** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**15.45** «Погода» + Эрана.
**15.50** «Детектив на экране». «Шерлок Холмс и доктор Ватсон».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15, 1.35** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЗАПРЕТНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**23.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ САМУРАЙ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 10 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**8.40** Х/ф **«ДОБРЫНЯ НИКИТИЧ И ЗМЕЙ ГОРЫНЫЧ».**
**9.50** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН».**
**13.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**15.15, 22.15** Мажорный лад.
**18.40** Театральная гостиная.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Регион: вчера, сегодня, завтра.
**20.15** Х/ф **«ПЯТНИЦА».**

### ВТОРНИК, 11 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Мая радзіма.
**8.25** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**13.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**16.30** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**19.20** Регион: вчера, сегодня, завтра.
**20.15** Х/ф **«ДЮПЛЕКС».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 12 АВГУСТА

**6.30, 7.30** Песня на завтрак.
**7.20, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.30** Новости БЖД.
**9.40** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**11.40** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**14.15** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**15.40** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**16.55** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**19.15** Всё обо всём.
**20.15** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 13 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.15, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Театральная гостиная.
**10.00** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**13.00** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**14.50** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ».**
**16.10** Х/ф **«СТАЖЁР».**
**19.20** Мастерство и вдохновение.
**19.40** Регион: вчера, сегодня, завтра.
**20.20** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 14 АВГУСТА

**6.30, 7.25** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.30** Мастерство и вдохновение.
**9.00** Рядом со зведами.
**10.00** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**11.55** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И ШАМАХАНСКАЯ ЦАРИЦА».**
**13.10** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**14.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.40** Мая Радзіма.
**20.20** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СУББОТА, 15 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Мая Радзіма.
**8.20, 20.20** Следопыт.
**8.30** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**10.30** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**
**13.00** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**14.50** Х/ф **«ДЮПЛЕКС».**
**16.20** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН».**
**19.20** Реликвия: сохраненные ценности.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Волшебная книга МЧС.
**21.45** Фрагменты истории.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 16 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**8.30** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**10.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.20** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ».**
**13.50** Х/ф **«ШАФЕР НАПРОКАТ».**
**15.30** Х/ф **«ПЯТНИЦА».**
**17.00** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА».**
**19.00** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**
**20.30** Х/ф **«БАРМЕН».**
**21.00** Х/ф **«ДЮПЛЕКС».**

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«ТРЕТИЙ ДОЛЖЕН УЙТИ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СЕРДЕЧНЫХ ДЕЛ МАСТЕРА».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день.

**16.05** Судьба гигантов.

**16.40, 19.10** Х/ф **«НИКТО КРОМЕ НАС».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«БОЛЬШОЙ АРТИСТ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.20, 19.40** Телебарометр.

**9.25** «Супержена». Реалити-шоу.

**10.15** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**12.15** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**13.10** Х/ф **«ТАИНСТВЕННЫЙ ЛЕС».**

**14.55** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.10** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**18.00** Х/ф **«ИЗ НЕАПОЛЯ С ЛЮБОВЬЮ».**

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА ВТОРАЯ».**

**23.10** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].

**0.10** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.40, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** «Гэты дзень».

**8.25** «Цыган». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Хатні квас. Шарлотка.

**10.45** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.35** «Падкідыш». Мастацкі фільм [СТ].

**12.50** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Любовь Каспорская.

**14.00** «Тэатр у дэталях». Балет Вялікага тэатра Беларусі «Рамэа і Джульета».

**14.25** С.Пракоф'еў. «Рамэа і Джульета». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**16.20** «Саша-Сашачка». Мастацкі фільм [СТ].

**17.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**17.55** «Пакроўскія вароты». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Фурцава» Шматсерыйны мастацкі фільм. 5-я – 8 с.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** Премьера ОНТ: «100 имён Беларуси». «Король Ян Чапский».

**8.05** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**11.00** «Видели видео?».

**12.45** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.20** Международный музыкальный фестиваль «Жара». Лучшее.

**18.15** «Три аккорда».

**20.00** «Контуры».

**21.20** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР».**

**23.15** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.35** Х/ф **«БЕЛОЕ СОЛНЦЕ ПУСТЫНИ».**

## СТВ

**6.30, 0.00** «Пища богов».

**8.15, 11.00** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«НЮХАЧ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.50** Документальный спецпроект.

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**5.10** Х/ф **«МЕСТЬ И ЗАКОН».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Андрей Краско.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ОРЛОВА И АЛЕКСАНДРОВ».**

**3.05** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПРИНЦА ФЛОРИЗЕЛЯ».**

**6.10** Т/с **«В ПОИСКАХ КАПИТАНА ГРАНТА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.45** Истории спасения.

**14.15** Х/ф **«СНАЙПЕР 2: ТУНГУС».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.30** Ты не поверишь!

**20.20** «Звезды сошлись».

**21.45** «Основано на реальных событиях».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«ТАМ, ГДЕ НАС НЕТ».**

**10.35, 11.20** Х/ф **«ОТПЕЧАТОК ЛЮБВИ».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**14.20, 21.10** Т/с **«ЧУЖАЯ ЖИЗНЬ».**

**23.00** «В людях».

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**7.10** Не/смотря ни на что. **9.10** Области тьмы. **11.00** Годзилла. **13.20** Кинг Конг. **16.35** Валериан и город тысячи планет. **19.00, 5.00** История одного вампира. **20.55** Добро пожаловать в Zомбилэнд. **22.25** Дюна. **0.50** Большая игра. **3.10** Как украсть небоскрёб.

### TV1000 ACTION

**7.00** Ускорение. **8.30** Железный кулак. **10.05** Потрошители. **11.55** Взрывная блондинка. **13.50** Хэнкок. **15.20** Хеллбой II: Золотая армия. **17.20** Механик. **19.00** Перевозчик 3. **20.45** Перевозчик: Наследие. **22.15, 5.10** Во имя короля: История осады подземелья. **0.15** Омерзительная восьмёрка. **3.25** Чистильщик.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.10** Жених. **8.50** Горько! **10.35** Горько! 2. **12.15** Мама не горюй 2. **14.10** Убежать, догнать, влюбиться. **15.40** Килиманджара. **17.00** Самый лучший день. **19.00** 8 новых свиданий. **20.30** 8 лучших свиданий. **22.15** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **0.10** 9 рота. **2.25** Несокрушимый. **4.00** Курьер из «Рая». **5.30** На крючке!

### ТВ3

**6.00, 10.15** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.15** «Погоня за вкусом». **10.45** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА: ВОЗМЕЗДИЕ». 12.45** Х/ф **«ФИНАЛЬНЫЙ СЧЁТ». 14.45** Х/ф **«В ОСАДЕ». 17.00** Х/ф **«В ОСАДЕ: ТЕМНАЯ ТЕРРИТОРИЯ». 19.00** Х/ф **«УНИВЕРСАЛЬНЫЙ СОЛДАТ». 21.00** Х/ф **«САБОТАЖ». 23.15** Х/ф **«АВТОМОБИЛЬ: ДОРОГА МЕСТИ». 1.00** Х/ф **«ИСТЕРИЯ». 2.30** Х/ф **«ПОКА ЕСТЬ ВРЕМЯ». 4.00, 4.45** «Тайные знаки». **5.30** «Странные явления».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«САКВОЯЖ СО СВЕТЛЫМ БУДУЩИМ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«МОЯ БЫВШАЯ ПОДРУЖКА». 3.10** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ». 4.50** Х/ф **«ЛЮБОВНОЕ БЕЗУМИЕ». 6.25** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 8.20** Х/ф **«МАЛЬЧИШНИК В ЕВРОПЕ». 10.20** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО». 12.10** Х/ф **«ДЕНЬ ВЫБОРОВ ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 13.55** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 15.55** Х/ф **«ЧЁРНЫЙ РЫЦАРЬ». 17.45** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ». 19.30** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ». 21.05** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2». 22.40** Х/ф **«ТВОЙ ВЫХОД, ДЕТКА!».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20** Т/с **«ШУЛЕР». 1.30, 3.55, 5.55** Т/с **«ЛЮТЕР». 8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 12.00, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.50, 18.50, 19.45, 20.45, 21.40, 22.40** Т/с **«БАЛАБОЛ». 23.35** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ПЛЮШЕВЫЙ МОНСТР». 14.35** Х/ф **«РИДДИК». 16.55** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ». 18.55** Х/ф **«РАЙОН №9». 21.00, 0.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.25** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 2.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Теннис. WTA. Лексингтон. Полуфиналы. **10.10** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/4 финала. **12.00** Пляжный футбол. Кубок Беларуси. Полуфиналы. **14.20** Спорт-микс. **14.30** Теннис. WTA. Прага. Финал. **16.30** Пляжный футбол. Кубок Беларуси. Финал. **18.00** Теннис. WTA. Лексингтон. Финал. **20.05** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/4 финала. Дневник. **20.40** Тренировочный день. **21.10** Пит-стоп. **21.45** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1/2 финала. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**1.00** Ралли. ERC. Латвия. Первый день. **1.30, 4.00** Автогонки. World Endurance. Спа. **2.30, 9.30** Велоспорт. «Критериум Дофине». 4-й этап. **6.00, 10.30, 14.00, 15.15, 21.15** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Финал. **8.00, 20.15** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **9.00** Велоспорт. «Критериум Дофине». 3-й этап. **12.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Сильверстоун. **13.00, 18.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Барселона. **19.30** Велоспорт. «Критериум Дофине». 5-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Сравнительный тест. **6.30** Тайный покупатель. **6.45, 7.15, 17.20, 18.10** Возвращение легенды. **7.40, 10.35, 13.20, 16.45, 19.15, 23.45, 1.20, 3.50** Итоговые новости. **7.55, 8.15, 17.50, 18.40, 18.55** Легенды автопрома. **8.35** Резьба по стали. **9.05** Тест с дядей Ваней. **9.25** Мотогараж. **9.55, 10.15** Мото тест-драйв. **10.50** Проверка на дороге. **11.10** Вторичка. **11.25, 19.30, 22.55** Байкал-трофи. **11.55, 12.15, 20.00, 23.25, 3.35** Авто: вторые руки. **12.30, 20.15, 0.05, 4.05** Трасса А2. **13.40, 0.55** Испытание на прочность. **14.10** Все включено. Эксклюзив р. **14.30, 15.00, 1.40, 2.05** Тест на «Драйве». **15.30, 21.05, 4.50** 9 злобных водителей. **16.05** Байки про байки. **17.00, 22.25** Эконом-тест. **21.40, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.40** Автолайф. **2.35** Сити тестер. **3.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.55** Речные чудовища. **8.45** Могучие реки. **9.35, 10.00, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00** Нефритовая лихорадка. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15, 21.25** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35** Австралийские золотоискатели. **22.10, 22.55** Австралийские охотники на лобстеров. **1.25, 2.10, 2.55, 3.40, 4.25** Деревенский дом. **5.10** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.20** Запретная история. **7.10, 11.25, 12.10, 13.00, 13.45, 14.30, 15.20, 16.05, 1.45, 2.35, 3.20, 4.10, 4.55** Музейные тайны. **7.55** Взрывная Земля. **8.50** Коварная Земля. **9.40, 10.35** Мифические существа. **16.55** Поля сражений. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.30** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Древние суперстроения. **21.00** Шпионаж за монархами. **21.55** Частная жизнь коронованных особ. **22.45** Карты убийства. **23.35, 0.40** История христианства.

### NATURE

**6.10, 6.40, 4.05** Уличный ветеринар. **7.05** Дикая Норвегия. **8.05, 9.00, 9.50, 10.45** Уэльс: дикая земля. **11.35, 12.25, 13.15, 14.10, 20.40** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **15.00, 18.40** Дикая Канада II. **16.05** Эпический Йеллоустоун. **16.55** Великая американская оттепель. **17.50** Природа Америки: времена года. **19.45** Дикая Латинская Америка. **21.30, 22.20, 23.10** Выживание в дикой природе. **0.05** Невероятные встречи с животными. **0.50** Хищные питомцы. **1.40** Мутации погоды. **2.25** Анатомия крупнейших животных. **3.15** Ветеринар из Йоркшира. **4.30, 4.55, 5.20** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупостилучшее за 2018 г. **6.25, 5.50** Научные глупости 8. **6.50** Суперкар со свалки. **7.45, 2.00, 2.45** Авто – SOS. **8.40, 9.35** Враждебная планета. **10.30, 11.20, 12.10, 13.00** Царство мумий. **13.55, 14.50** Деревянная кожа. **16.40** Секунды до катастрофы. **17.35** Очевидцы: День «Д». **18.25** Самые лучшие суперкары. **19.15, 20.05** Суперсооружения: чудеса инженерии. **21.00** Внутри невероятной механики. **21.50** Зона строительства. **22.15, 23.10** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **0.00, 0.45** Космос: возможные миры. **1.35, 5.10** Инстинкт выживания. **3.35, 4.20** Секретные материалы древности. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.55, 14.50, 19.00, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 16.05, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.25, 16.35, 20.30** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55, 12.50, 17.05, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 1.35, 5.35** Россия заповедная. **11.25, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **13.20, 17.35, 21.35** Донка против фидера. **15.15** Дед Мазай и зайцы. **20.00** Рыболовная Россия. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.30, 4.35** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **2.55** Две на одного. Оружие.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.15, 18.10, 22.05, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.40, 22.35, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 15.15, 19.10, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.50, 19.45, 23.35, 3.55** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.20, 20.15, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.40, 20.30, 0.25, 4.35** Про грибы. **8.35, 12.45, 16.55, 20.45, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 17.10, 21.05, 1.00, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Траровед. **9.35, 13.30, 17.40, 21.35, 1.30, 5.35** ТОП-10. **14.00** Варенье. **1.55** Закуски.

# Была і такая вайна

## Успаміны Часлава Лявіцкага, удзельніка вераснёвай кампаніі 1939 года

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №№ 30,31*

**МЯДЗЕЛ**

**Спіс вераснёвых смертнікаў Францішка Жылкі, надрукаваны ў №19 «Рэгіянальнай газеты», выклікаў водгукі чытачоў, якія знайшлі сваіх родных.**


Фота fotopolska.eu.

Варшава адразу пасля Другой сусветнай. У вайну тут спалілі 94% будынкаў, уключаных у спіс гістарычных помнікаў.

Прапаную вам успаміны Часлава Лявіцкага, жыхара вёскі Кабыльнік, што на Мядзельшчыне. Часлаў Часлававіч, народжаны ў 1912 годзе, таксама служыў у гэтай дывізіі. Успаміны я запісаў у жніўні 1999 года. Вымаўленне захаванае.

**– А чаму немец уцякаў разам з вамі?**

– Уцякаў у Расею. Ахвоты набраўся, што ў Саветах, як напісалі нашы, дазвалялася ружжо браць і паляваць. Дык ён кажа: «На Сібір паеду. Буду план выконваць і паляваць». Набраў есці, мапу ўзяў. Аднак нас злавілі пры граніцы. Немцы на Расею сабраліся ісці ваяваць і ўжо былі ўскрапчылі граніцу каля Сувалак. Коні стаялі ў бараках, з дошак пазбіваных. Немца адразу адлучылі ад нас. А нас пасадзілі ў бункер. Затым адправілі ў лагер. Тры месяцы пад армію цяпер трэба было адрабіць. Лагер у лесе знаходзіўся, непадалёку ад горада Прэйс-Эйляў у Прусіі. Гэта быў першы лагер ад граніцы. Там у холад капалі камень па калена ў вадзе. Не выканаў плану – пыткі. Аднойчы дамовіліся ўдвух палонныя ўцячы ноччу з гэтага лагера. Пакінулі шынэлькі каля ям, дзе жвір для дарог бралі, і дамовіліся там сустрэцца. Уцяклі праз дрот. А святло ўключана, вахман вакол лагера ходзіць. Таму немцы хутка агледзеліся.

Як пачалі нас ганяць: «Чаму не наказалі вахманам, як яны ўцякалі?» Нарабілі з калючага дроту вітушак, пакідалі пад ногі і пачалі нас голых ганяць. У адной кашулі былі. Бо ў кальсонах не давалі спаць. Немец і сам без портак, толькі ў кашулі спаў. І гэтак нас гоняць па вітушках і лупяць палкамі і гумамі па вярху. Білі-білі. Аж прыганяюць аднаго ўцекача. Ён, значыць, быў уцёк і чакаў напарніка ля шынэлек. А ішоў вахман на гэту бяду з адпачынку. Уцякач думаў, што свой, і свіснуў. Вахман адсвіснуўся. А ноч цёмная, увосень было. Палонны выйшаў, а вахман ухапіў яго. Калі прывялі ўцекача, то ўсім было загадана біць яго голага. Немцы яшчэ баб сваіх на машынах папрывозілі, і тыя стаяць у варотах, аж лопаюць, гэтак яны смяюцца, як нас немцы б'юць. І, значыцца, увесь лагер павінны быў біць уцекача за тое, што ўсіх білі праз аднаго. Бі колькі скажуць, што ён праграшыў. А як жа будзеш свайго? Але калі слаба б'еш, лажыся і цябе будуць. Лепей застрэліцца, чым ісці ў палон. Застрэліўся – усё роўна адзін раз жывём, а то во што перажылі...

Крыху пазней працавалі ў начальніка лагера, які меў гектар зямлі, карову. Адпрацавалі гады са тры. А калі ён памёр і засталіся адны бабы – зноў мы ўцякалі. Удзень тады заляглі ў кусце на полі схавацца. Раптам прыйшоў немец і пачаў зямлю араць каля гэтага куста. Уцячы ж нельга – дзень. Тады прыбягае сабака да гэтага чалавека ў капелюшы і пачаў брахаць на нас. Немец дастаў браўнінг, і мы праз поле пабеглі да лесу. А там хутары навокал, растрэсена па адной хаце і ў кожнага свой тэлефон. Каля дарогі ў Германіі таксама парастаўляны тэлефоны. Наляцела болей немцаў і сабак з імі. І злавілі нас у ляшчынніку. Ну і што? Злавілі – пыткі. Колькі хочуць, столькі цябе лупяць. Ты ж бяспраўны, як цябе злавілі. Потым каля Кёнігсбергу адбываў кару.

**– Да якога года давялося ў нямецкім палоне быць?**

– Асвабадзіла Расея ў 45-м вясной. Немец не даваў палонным аставацца, гнаў перад сабой. Я быў палонны і яшчэ адзін чалавек, які з-пад Віцебска літоўцамі вывезены. Узялі каня, набралі адзення, ежы. Паехалі да рэчкі, што бліжэй да фронту. Тут гара, тут рэчка. Падкапалі гару ад рэчкі і зрабілі бункер. Паставілі слупы, накат. Нас ніхто з немцаў не агледзеў, і гэтак мы засталіся. Потым рускія падышлі з аўтаматамі: «Хто такія?» Мы кажам: «Палонныя».

**– А што было адразу пасля вайны?**

– Сабралі нас і ў 45-м павезлі дамоў. У Вільні я злез. Кажу: «Тут брат мой, які ахвотнікам у польскім войску ваяваў. Ужо з палону выпусцілі яго. Пайду да брата».

А мяне не адпускаюць. Сказалі, што гэта раней была Віленская вобласць. А цяпер Маладзечанскую зрабілі за гэтыя гады пры Саветах і што ў Маладзечна выпусцяць і на машынах будуць развозіць. Прыехалі ў Маладзечна. Замест таго, каб адправіць дамоў, прычапілі плятформу кіламетраў са тры – брэты і палаткі – і аж да Саратава. Прывезлі на поле, разгрузілі. На вышку ўзлез нейкі палкоўнік ці генерал і вычытаў: «Вашы сёстры, брацце, бацькі – усе працуюць у калгасах, на будоўлі. І вы мусіце на пяць год план паставіць: пабудаваць газапровад Саратаў-Масква на 110 кіламетраў». Ну, дык пяць гадоў і рабіў.

Гэта пасля вайны нас усіх адразу туды павезлі – дзесяць тысяч чалавек. Саветы шукалі ўласаўскіх, і таму палонным веры не давалі, а вывозілі. Уласаўцы ж прадалі і ўпусцілі аж да Ленінграда фронт. А я меў таблічку люмінавую з польскай вайны. У войску такія выдаваліся, дзе ўказваліся полк, дывізія. У Саратаве ўзяў картачку люмінавую. Прыходжу да начальства і пытаюся: «Які ж я ўласавец, што на казню вывезлі на пяць год? Я ж з польскай вайны». Тады я там у ахове рабіў, людзей пільнаваў. Усё роўна план далі. Мусіў адбываць. У Разані нам участак быў: вёска Табаева, станцыя Караблiно. А гаспадаром кватэры быў Іван Скакун.

Пазней, хто з палонных у Германіі за пяць год не апраўдаўся, яшчэ на пяць год у Уфу вывезлі на руду жалезную канчацца. Апраўдання ці сведкаў няма – значыць, уласавец. Не немец цябе вывез, а ты сам з немцамі ўцякаў. Пры мне вывозілі. У лагеры мы ў чатырох-пяці вартавых засталіся з апраўданымі. А іншых пасля допытаў павезлі на казню, так, як уласаўцаў.

**– Потым адразу дахаты адпусцілі?**

– Прыехаў дамоў... У калгасе брыгадзірам паставілі. 24 двары ад Рыдуплі, Мельнікаў і да Глыбокага Ручая ўваходзілі ў маю брыгаду. Пабудаваў сабе хату. У той час Беларусь крэпкай была, з Амэрыкай раўняліся. Такія фермы былі – тысячнікі. Не было дзе мяса здаць. У мяне самога дзве каровы дойныя былі. Здаць не можна было. Ніхто не прымаў, бо загружаныя базы былі.

А Брэжнеў Агістан за ноч таксама быў забраўшы. Ды многа быў зрабіўшы ўжо. А вось што Гарбачоў зрабіў. З Амэрыкай здружыў, цяпер яна не баіцца. І немца выпусціў. Падумаць толькі – нашы выпусцілі немца! Гэтак ён нас катаваў! Столькі людзей перабіў, перапаліў! Спаліў маіх дзядзькоў чатырох з дзецьмі ў гумне ў вёсцы Крапіўна, за Мядзелам шэсць кіламетраў. Хто пры ім жыў, кожны гумы скаштаваў. А яго во – выпусцілі з ланцуга. Зараз немец на свабодзе. Узбраецца і яшчэ прыйдзе нас лупіць. Вось да чаго вярхушка дапушчае!

Цяпер людзі маркі палучаюць, што мы адрабілі немцу. А я нічога дайсці не магу. Як дапрашвалі мяне ў Расеі, шукаючы ўласаўскіх, замест Часлава Часлававіча запісалі Вячаславам Вячаслававічам. На допыце сказалі, што Чаславаў у нас няма, а ёсць Вячаславы. Калі перачытваў, што там было напісана, то нічога не разумеў. Я ж у польскай школе вучыўся. Па-французку ў Польшчы вучылі, а па-руску не вучылі. Дык, вось. У архіве ўсё знайшоў, дзе ў гаспадароў рабіў і што рабіў. А мне кажуць – гэта не твайго отчыства дзела, а другога Часлава. І што ты дакажаш? Тады сказалі, каб даў праз суд двух сведкаў, з якімі працаваў у палоне. А яны пазміралі. Напрыклад, у Труханках Шышэўскі быў. Ён разам са мной у лагерах сядзеў. Разам са мной уцякаў... Цяпер у другі раз напісаў, што ўсё-такі крыўдую. І як даказаць, што гэта маё імя? У лагерах жа увогуле імён не было. Літара Р на грудзях, што паляк, а на плячах твой нумар.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ.**

**● КАЛЯНДАР**

### 7 ЖНІЎНЯ

**1932.** Нарадзіўся **Адам Мальдзіс**, вёска Расолы Астравецкага раёна. Беларускі літаратуразнаўца, крытык, публіцыст. Доктар філалагічных навук, прафесар.

### 8 ЖНІЎНЯ

**1655.** Захоп маскоўскім войскам сталіцы ВКЛ Вільні.

**1912.** Нарадзіўся **Аркадзь Чарнышэвіч**, беларускі празаік. Памёр у 1967. У 1950-х працаваў дырэктарам Насовіцкай, а потым Свірскай пачатковых школ Мядзельскага раёна. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1954. З 1954 жыў у Радашкавічах, потым пераехаў у Мінск.

### 9 ЖНІЎНЯ

**1910.** Нарадзілася **Ларыса Геніюш**, беларуская паэтэса, празаік, грамадскі дзеяч. Памерла ў 1983 годзе. Пахаваная ў Зэльве.

### 10 ЖНІЎНЯ

**1919.** У Мінску створаны Часовы беларускі нацыянальны камітэт (ЧБНК) – беларуская грамадска-палітычная арганізацыя, каардынацыйны орган беларускага нацыянальнага руху ў час польска-савецкай вайны 1919-20 гадоў на тэрыторыі падкантрольнай польскім вайсковым фарміраванням.

### 11 ЖНІЎНЯ

**1937.** Кіраўнік НКВД **Мікалай Яжоў** падпісаў загад аб пачатку так званай польскай аперацыі. У час яе правядзення рэпрэсіраваныя 139 тысяч 835 асоб. З іх расстраляна больш за 111 тысяч. Пад рэпрэсіі трапілі пераважна жыхары БССР і УССР, а таксама жыхары іншых раёнаў СССР, ураджэнцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія былі запісаныя як палякі.

### 12 ЖНІЎНЯ

**1851.** Амерыканскі вынаходнік і прамысловец **Ісак Зінгер** атрымаў патэнт на вынаходніцтва швейнай машыны. Ён унёс істотны ўклад ва ўдасканаленне канструкцыі швейнай машыны і заснаваў кампанію «Зінгер».

### 13 ЖНІЎНЯ

**1950**. Нарадзіўся **Пётр Краўчанка** – беларускі палітык, дыпламат і гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1976). Жыў у Маладзечне, дзіцячыя гады правёў у сваёй бабулі ў вёсцы Ліцьвінкі ля Куранца.



**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Кілбасы, паляндвіцы, кумпякі, старая калыска

## Чытачы прыгадалі, што іх бацькі і дзяды захоўвалі на гарышчы

**«Гарышча – слова, настоенае на таямніцах. На гарышчы жывуць кажаны і ажываюць казкі. Гарышча вабіць бабуліным калаўротам і дзедавай шабляй. Гарышча ўсцешвае старымі беларускімі кніжкамі і календарамі. У Шчодры вечар дзяўчаты выглядаюць тут свайго нарачонага» – так пісаў пра гарышча беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў.**


Пасьведчаньне аб нараджэньні № 42/9[illegible]

Гр. Тукайло Софія д. Пётры
(прозьвішча, імя і імя па бацьку)
нарадзіўся (лася) тысяча дзевяцьсот другога году 24 чэрвеня ./.24.VI.1902 г./.
(паказаць словамі і лічбамі год, месяц і чысло)
аб чым у кнізе запісаў актаў цывільнага стану аб нараджэньні за 1902 год „29“ чэрвеня месяца зроблен адпаведны запіс.

Бацька Тукайло Пётр с. Кандрата
(прозьвішча, імя і імя па бацьку)
Матка Тукайло Палагея д. Георгія
(прозьвішча, імя і імя па бацьку)
Месца нараджэньня дзіцяці в. Скавародкі Беніцкай вол.
(горад, павет, сяленьне, акруга)
Месца рэгістрацыі Праваслаўная царква ў Маркаве.
Выдана на аснове кнігі мэтрычнай за 1902 г.

(М. П.) GEBIET WILEJKA

Урадзнік Цывільнага стану

Фота Жанны АПЯЦЁНАК.

Так выглядала пасведчанне аб нараджэнні, што выдавалі ў Маркаўскай царкве ў 1902 годзе.

Для мяне асабіста гарышча бубулінай хаты ў Ільі – гэта школьныя падручнікі 1960-х, якія чамусьці тады не бралі ў бібліятэцы, а набывалі ў кнігарні і пакідалі сабе назаўсёды. Гэта старыя бацькавы сшыткі з запісамі чарнільнай ручкай і ўзорным почыркам. А яшчэ пратэз на левую руку, што належаў дзядулю-ветэрану Другой сусветнай.

А якія гісторыі, успаміны і знаходкі звязаныя з гарышчам у вас? З такім пытаннем мы звярнуліся да нашых чытачоў.

### Вэнджанае мяса ў кошыках, што плёў бацька

**Галіна Спроге** нарадзілася на Вілейшчыне. Цяпер жыве ў Латвіі.

> **Для яе гарышча бацькоўскай хаты – гэта вэнджанае мяса і кілбасы, якія ляжалі ў вялікіх кошыках з накрыўкамі. Кошыкі бацька спадарыні Галіны плёў самастойна.**

**Ірына Белановіч** цяпер жыве ў Маладзечне. А гарышча яе роднай хаты – у Крывічах, на Мядзельшчыне.

> **– На гарышчы разам з кнігамі і старым дзіцячым адзеннем ляжыць калыска, у якой выгадавалася 11 дзяцей.**

Калыску зрабілі 55 год таму для майго стрыечнага брата. Мне яна перайшла ў спадчыну. Таксама тут бацька сушыў кілбаскі, кумпячкі і рыбу. Бліжэй да восені там захоўвалі яблыкі, – прыгадвае Ірына.

### Гарышча – гэта жахлівыя гісторыі і пячаткі даваенных дактароў

Для чытачкі **Рэгіны Шавель** першая згадка пра гарышча – гэта сенавал, на якім па 10-12 дзяцей спалі летам. Старэйшыя распавядалі розныя жахлівыя гісторыі. А маленькая Рэгіна доўга не магла заснуць.

> **У дзяцінстве Вольгі Серанковай менавіта на гарышчы сабака нарадзіла шчанюкоў. Дзятва лазіла туды, каб назіраць за імі.**

Чытач **Андрэй Баўтрукевіч** расказаў, што сёлета вясной рабіў прыборку на гарышчы ў бабулінай хаце. Кажа, шмат успамінаў было, пакуль перабіраў старыя рэчы.

> **Знайшоў нават даваенную шклянку ад лекаў з пячаткай варшаўскага доктара.**

– У нас і дагэтуль на гарышчы яблыкі захоўваюцца і цыбулю сушым. А вось калі была жывая мая прабабуля, то там і збожжа захоўвалі, і рэчы дзіцячыя, абутак у асноўным, і кілбасы там сушыліся з паляндвіцамі і мноства іншых ласункаў, а цяпер там стэрыльная чысціня, – распавядае Андрэй.

### Знайшлі дакументы пачатку мінулага стагоддзя

**Дзмітры Буйневіч** не так даўно набыў хату ў Радашкавічах. Палез на гарышча і сярод іншых рэчаў знайшоў «Праграму з матэматыкі і фізікі для паступаючых у Віленскую Беларускую Гімназію ў 1923-4 шк.г.», а Алена Казакевіч – старадаўні абраз без рамкі.

> **Жанна Апяцёнак на гарышчы хаты сваякоў пабачыла пасведчанне аб нараджэнні 1902 года на імя Соф'і Тукайлы, напісанае па-беларуску.**

Кажа, калі не памыляецца, гэта дакумент належыць бабулі мужа. І выдадзены ў царкве, у Маркаве.


Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


Дастаць можна ў Канцэлярыі Гімназіі (Вільня, Сьв.-Траецкія муры. Вострабрамская вул. № 9).

ПРАГРАМА

з матэматыкі і фізыкі для паступаючых у Віленскую Беларускую Гімназію у 1923-4 шк. г.

Для паступаючыхъ у I клясу:

*Арытмэтыка.* Беглы лік і разьвязаньне вусных задачаў у межах 100. Нумэрацыя лічбаў і разьвязаньне пісьменных задачаў і прыкладаў на ўсе чатыры дзеяньні з лічбамі да 1000.

У II клясу:

*Арытмэтыка.* Нумэрацыя лічбаў усякае велічыні. Усе чатыры дзеяньні з простымі лічбамі. Азначаньне дзеяньняў. Рымскія лічбы. Нумэрацыя. [illegible]еры. Усе чатыры дзеяньні з складанымі іменнымі лічбамі. Мэтрычная с[illegible]стэма. Квадратныя і кубічныя меры. Меры памеру зямлі (дзесяціна, а[illegible] гэктар). Разьвязаньне пісьменных задачаў і прыкладаў.
*[illegible] геомэтрыі.* Пункт. Лінія. Квадрат і [illegible] [illegible]нь, прызма, піраміда, цыліндр, конус і куля.

У III клясу:

*Арытмэтыка.* Простыя дробы. Дзеяньні з простымі дробамі. Задачы на ўсе чатыры дзеяньні з простымі дробамі і тэорыя. Дзесятковыя дробы. Задачы і прыклады з імі і тэорыя.
*Пропэдэўтыка геомэтрыі.* Элемэнты геомэтрычных целаў: вяршкі, [illegible], сьценкі. Кут, элемэнты яго. Кут просты, востры, тупы. Куты [illegible]ныя. Трыкутнік. Трапэцыя. Чатыракутнікі няправільныя. Многа[illegible]. Падзел многакутнікаў на трыкутнікі. Складаньне і адыманьне [illegible]. Сума кутоў у трыкутніку. Абмер кола. Поўная вярхніна цы[illegible]. Піраміда і зрэзаная піраміда. Конус просты. Абыйма геомэт[illegible] целаў: простых прызмаў і простага цыліндра.

У IV клясу:

*Арытмэтыка.* Дзесятковыя дробы. Ператварэньне іх у звычайныя [illegible]. Дзеяньні над дзесятковымі дробамі. Незакончаныя дзесят[illegible] дробы. Пэрыодычныя дробы. Адносіны арытмэтычныя і геомэтрычныя. Прапорцыі арытмэтычныя і геомэтрычныя. Простая і адваротная прапарцыянальнасьць. Простае трайное правіла. Складанае трайное правіла. Разьвязаньне задачаў прыкладамі [illegible] і прапорцыяў. Працэнты. [illegible]

Фота Дзмітрыя БУЙНЕВІЧА.

Такую праграму Дзмітры Буйневіч знайшоў на гарышчы хаты, што набыў у Радашкавічах.

# «У Беларусі няма адкуль узяцца вайне». Комік з Мядзела гутарыў з самым знакамітым расійскім інтэрв'юерам

**На мінулым тыдні мядзельскі комік Іван Усовіч даў вялікае інтэрв'ю Юрыю Дудзю пра асабістае жыццё, камедыйную кар'еру і беларускія выбары.**

**Юры Дудзь** – знакаміты расійскі журналіст. Ад 2016 года вядзе канал на інтэрнэт-пляцоўцы Youtube. На ім выкладае відэазапісы з зоркамі музыкі, кіно, інтэрнэту, дакументальныя фільмы. Інтэрв'ю з Усовічам стала другой гутаркай з беларусамі на канале ў Дудзя. **Іван Усовіч** нарадзіўся ў Мядзеле. Пасля заканчэння школы паступіў у эканамічны ўніверсітэт у Мінску, дзе правучыўся тры гады. Ва ўніверсітэце гуляў у КВЗ. У 19 гадоў пераехаў у Маскву, дзе пачаў прафесійна займацца камедыяй.



Юры Дудзь і Іван Усовіч падчас інтэрв'ю.

Фота youtube.com/vdud

## Камп'ютар, вучоба ў Мядзеле і Мінску

Усовіч распавёў Дудзю, што да чацвертага класа быў выдатнікам. Летам пасля чацвертага класа ў Мядзеле з'явіўся камп'ютарны клуб. Яго брат упершыню паказаў камп'ютарныя гульні, у прыватнасці, гульню пра Другую сусветную вайну.

– Мы з братам папрасілі бацьку купіць нам камп'ютар. Гулялі ночы напралёт. Гэта была вялікая памылка бацькоў, таму што школа сышла на другі план. Чакаў, калі бацькі пойдуць на працу, сам быццам ішоў у школу, але вяртаўся гуляць.

> Бліжэй да выпуску Іван астыў да гульняў, трэба было рыхтавацца да паступлення. Абраў эканамічны ўніверсітэт, здаваў матэматыку, англійскую і беларускую мовы.

– Я пабудаваў стратэгію: вучу гэтыя тры прадметы. А атэстат у мяне выходзіў і так нармальным.

Усовіч прызнаўся, што падчас навучання ва ўніверсітэце не рыхтаваўся да экзаменаў. Здаваў усе прадметы з навушнікам, яму дапамагаў брат. Пасля трэцяга курса кінуў універсітэт.

## Праца на ТНТ і камедыйная кар'ера

Пасля таго як Усовіч кінуў універсітэт і перабраўся ў Маскву, пачаў камедыйную кар'еру ў сталіцы Расіі.

– Маці пыталася: «Што будзе?» Пасля некалькіх месяцаў у Маскве яны з бацькам зразумелі, што не лухтой тут займаюся. Сябры маці сталі нешта расказваць, я пачаў здымацца на ТНТ.

Усовіч нядоўга працаваў на ТНТ, хутка сышоў з тэлеканала. Па яго словах, гэта адбылося таму, што не паспяваў рыхтаваць камедыйныя маналогі ў неабходным аб'ёме.

Пасля ТНТ займаўся сваёй праграмай, стаў індывідуальным прадпрымальнікам і сам арганізоўвае выступленні. Усовіч робіць праграму на гадзіну, з якой ездзіць у туры, – гэта яго асноўны прыбытак. Таксама беларус займаецца карпаратывамі. Іван падзяліўся, што яны яму падабаюцца значна больш, чым канцэрты:

– Часта бывае, калі ты выходзіш на мерапрыемстве, і ўвогуле нікому не патрэбны. Справа не ў табе на карпаратыве. Людзі часцей на цябе не глядзяць, занятыя іншым. Гэта атмасфера безвыходнасці – ты нічога не можаш з гэтым зрабіць.

Ад 2014 года Усовіч пачаў добра зарабляць, таму назапашваў грошы на набыццё жылля. У мінулым годзе купіў кватэру за 22 мільёны расійскіх рублёў.

**Лепшыя комікі на погляд Усовіча:** Артур Чапаран, Ідраг Мерзэльзадэ і Руслан Белы.

## Любіць складаць спісы, але гэта асаблівасць

У Івана ананкастнае расстройства асобы. Яно характарызуецца празмернай схільнасцю да сумневаў, залішнім перфекцыянізмам, упартасцю. Сам Усовіч распавядае, што гэта дапамагае яму быць сканцэнтраваным і дэталёва ўсё планаваць. Дудзю ён паказаў спісы, у якіх адзначае бытавыя моманты, а таксама вядзе спіс з усімі сваімі інтэрв'ю.

У свой час Усовіч лічыў колькасць дзяўчат, з якімі ў яго былі адносіны.

> – Мне было цікава складаць спісы, аналізаваць статыстыку. У мяне такія мазгі. У артыкулах пра расстройства пісалі, што людзі не займаюцца творчасцю. А вось мяне занесла ў гумар.

Цяпер у Івана ёсць дзяўчына, якая займаецца дызайнам інтэр'ераў. Па словах коміка, пакуль не гатовы ажаніцца.

## Выбарчая кампанія ў Беларусі

Некалькі тыдняў таму Усовіч даў невялікае інтэрв'ю расійскаму журналісту **Іллю Варламаву**, у якім выказаўся пра арышты перад выбарамі, нядопускі **Віктара Бабарыкі** і **Валера Цапкалы**. Іван патлумачыў, што не пракаментаваць сітуацыю не мог. У іншым выпадку перастаў бы сябе паважаць.

**– Слухай, што табе не падабаецца? Чыста, бяспечна...**

> – Ды што людзей б'юць палкамі па твары. Што ў гэтым можа падабацца?

Для Усовіча дзіўна, калі адзіным дасягненнем для палітыка з'яўляецца адсутнасць вайны на тэрыторыі краіны:

> – У Беларусі няма адкуль узяцца вайне. Няма рознагалосся па мове, рэлігіі. Кажуць, вось у нас няма вайны. А чаму яна павінна быць? Брэст з Магілёвам будуць ваяваць?

Па словах Усовіча, да гэтага лета ён быў апалітычным. Комік лічыць, што беларусы паўгода таму менш цікавіліся палітыкай, а цяпер прачнуліся.

– Не трэба вінаваціць беларусаў, што яны былі апалітычныя. Людзей проста не цягне ў палітыку, калі ва ўладзе прэзідэнт знаходзіцца больш за 20 год.

Усовіч не збіраецца перавозіць бацькоў у Расію, дзе ён цяпер жыве. Аднак Івану ўжо тэлефанаваў сябар і казаў, што да яго бацькоў у Мядзеле прыходзілі зператрусам. Высветлілася, што гэта проста чуткі.

**– Пуцін ці Лукашэнка?**

– Мне падаецца, што яны аднолькавыя. Аднак Пуцін умее стратэгічна планаваць. У Лукашэнкі – гэта пасадзіць, пасадзіць, пасадзіць. У Пуціна – гэтага пасадзіць, а гэтага не пасадзіць, таму што падумаюць штосьці.

**– Сяргей Ціханоўскі ці Віктар Бабарыка?**

> – Я не эксперт у такіх справах, але абраў Бабарыку.

Ціханоўскі – гэта пратэстны кандыдат, а Бабарыка дасведчаны кіраўнік. На жаль, няма абодвух.

**Пераказала Настасся УТКІНА.**

# Ціханоўская пабывала ў Смаргоні і Маладзечне

**31 ліпеня аб’яднаныя штабы Святланы Ціханоўскай, Віктара Бабарыкі і Валерыя Цапкалы прыязджалі ў Смаргонь і Маладзечна, каб сустрэцца з выбаршчыкамі. Карэспандэнты «РГ» былі на месцы падзей.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Ціханоўская, Цапкала і Калеснікава сабралі на стадыёне больш за тры тысячы чалавек.

### «Ці праўда, што Смаргонь – радзіма абаранкаў»

За некалькі дзён да прыезду аб’яднаных штабоў у наш рэгіён беларускія сілавыя структуры затрымалі 33 грамадзян Расіі. Дзеючы прэзідэнт Беларусі назваў іх баевікамі прыватнай ваеннай кампаніі, якія хацелі падарваць стабільнасць у краіне.

Праз затрыманне расійскіх грамадзян усе масавыя мерапрыемствы, якія праводзяць кандыдаты ў прэзідэнты, цяпер ахоўваюць міліцыянеры. Супрацоўнікі праваахоўных органаў ставяць часовыя агароджы, правяраюць кожнага чалавека металадэтэктарам. Таму праход людзей быў павольным, а на ўваходах стаялі вялікія чэргі.

Мерапрыемства ў Смаргоні пачалося ў 13:00. Шмат людзей прыходзілі з дзецьмі. **Святлана Ціханоўская**, **Марыя Калеснікава** (штаб **Віктара Бабарыкі**), **Вераніка Цапкала** (штаб **Валера Цапкалы**) выйшлі на сцэну толькі праз гадзіну, калі асноўная колькасць людзей ужо сабралася ў скверы.

Ціханоўская ў прамове падзякавала, што смаргонцы прыйшлі на сустрэчу. Жанчына звярнулася да пенсіянераў, казала, каб тыя не баяліся перамен. Святлана звярталася да міліцыянераў і вайскоўцаў: падзякавала за ахову і абарону, а таксама папрасіла не парушаць закон.

Ціханоўская адзначыла, што яна не палітык, улада не патрэбная ёй. Але яна ахвяравала спакойным сямейным жыццём дзеля сябе і дзеля ўсіх.

– Я стамілася баяцца, я стамілася цярпець, я стамілася маўчаць, – працягнула прамову Святлана.

Марыя Калеснікава спыталася ў смаргонцаў, ці сапраўды Смаргонь – радзіма абаранкаў. Яна выцягнула з пакета абаранак і сказала, што ўлада лічыць беларусаў нулём. Вераніка Цапкала распавяла пра асноўныя прэтэнзіі і пытанні, якія мае да дзеючай улады.

Сустрэча доўжылася каля гадзіны, пасля чаго кандыдат і прадстаўніцы аб’яднаных штабоў адправіліся ў Маладзечна.

### У Маладзечне сабралася не менш за тры тысяч чалавек

Сустрэчу з Ціханоўскай запланавалі на 15:30, людзі прыходзілі загадзя. Чарга на адзіны ўваход на гарадскі стадыён, дзе праходзіла сустрэча, цягнулася да радзільні.

Ціханоўская з паплечніцамі з’явілася на сцэне і пачала выступленне са звароту да маладзечанцаў, якіх назвала смелымі і крутымі. Як і ў Смаргоні, Святлана звярнулася да сталых людзей. Супакоіла, што пры новым прэзідэнце будуць пенсіі, не будзе вайны, а ўнукі і дзеці не будуць вымушаныя з’язджаць за мяжу, каб зарабіць.

– Дзяржслужачыя і члены выбарчых камісій, вы разумееце, што вашымі рукамі праводзілі фальсіфікацыі. Няўжо і цяпер вы сфальсіфікуеце выбары? Не трэба сябе апраўдваць тым, што вы баіцеся. Цяпер такі час, што кожны павінны перастаць баяцца, – працягвала Ціханоўская.

Далей са сцэны выступала Марыя Калеснікава, якая адзначыла, што была ў Маладзечне раней толькі як музыкант:

– Маладзечна – гэта горад, які можа супрацьстаяць уладам. Маладзечанцы – прыклад для ўсёй Беларусі. Недзе перапразаюцца чырвоныя стужкі, а недзе мыла вісіць на вяроўцы. А памятаеце, як у амапаўца ў Маладзечне выслізнуў пісталет? Схавайце зброю!

Вераніка Цапкала падзякавала маладзечанцам за актыўную грамадзянскую пазіцыю. Адзначыла, што на сустрэчы прыходзяць людзі розных узростаў і перакананняў. Яна ад імя аб’яднаных штабоў заявіла, што чуе праблемы беларусаў і праносіць праз сябе.

Як і ў Смаргоні, сустрэча на стадыёне ў Маладзечне доўжылася каля гадзіны.

Кандыдат Ціханоўская з’яўляецца адзіным кандыдатам у прэзідэнты, якая наведала Маладзечна і Смаргонь. Нагадаем, **Сяргей Чэрачэнь** адмовіўся ад правядзення мітынгаў. **Андрэй Дзмітрыеў** да пачатку датэрміновага галасавання не наведаў наш рэгіён, як і **Ганна Канапацкая**. Аляксандр Лукашэнка не ўдзельнічае асабіста ў мітынгах.

Пасля завяршэння мерапрыемства супрацоўнікі міліцыі затрымалі чатырох журналістаў тэлеканала «Белсат».

Датэрміновае галасаванне пройдзе да 8 жніўня. 9 жніўня – дзень выбараў. 10 жніўня Цэнтрвыбаркам аб’явіць вынікі галасавання.

**Аддзел інфармацыі.**

---

## Мы сустрэліся ў анлайне са Святланай Ціханоўскай і паплечніцамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

30 ліпеня прэс-клуб зладзіў зум-сустрэчу журналістаў рэгіянальных СМІ са **Святланай Ціханоўскай** і прадстаўніцамі аб’яднаных штабоў **Віктара Бабарыкі** і **Валера Цапкалы Марыяй Калеснікавай** і **Веранікай Цапкалай**. Яны адказалі на пытанні журналістаў «Рэгіянальнай газеты», якія бралі ўдзел у сустрэчы:

**– Журналісты давяліся, што дэбаты кандыдатаў у прэзідэнты не будуць у прамым эфіры. Іх нам пакажуць у запісе. Пракаментуйце сваё бачанне сітуацыі.**

**Марыя Калеснікава**: Увогуле, гэта парушэнне выбарчага заканадаўства. Ва ўсіх дакументах дакладна пазначана: дэбаты – толькі ў прамым эфіры. Гэта значыць, што ва ўсіх кандыдатаў – роўныя правы. Мы павінны быць упэўненыя, што ніводнага слова не прыбяруць з эфіру. Такім чынам парушаецца і выбарчае заканадаўства, і правa на праўдзівую інфармацыю.

**– Не першы год кажуць пра адміністрацыйна-тэрытарыяльную рэформу. Пра тое, што замест звычайных шасці абласцей будзе 18 акруг з гарадамі-цэнтрамі. Нам гэта цікава, бо адным з цэнтраў будзе Маладзечна. Ці бачыце вы сэнс у гэтай рэформе? Ці будзе яе праводзіць новы прэзідэнт?**

Святлана Ціханоўская: Мы паглядзім, што зробіць па гэтым пытанні кандыдат у прэзідэнты, якога мы выберам на новых, сумленных, незалежных выбарах. А пакуль яно не тэрміновае. І за тыя паўгода, пакуль Святлана Ціханоўская будзе прэзідэнтам, пытанне не будзе стаяць востра.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Лукашэнка звярнуўся з пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу

«РГ» пераказвае асноўнае, пра што казаў Лукашэнка.

Пасланне ладзяць штогод, звычайна вясной. У гэтым годзе яго пераносілі ўжо двойчы раз. Падчас паслання Лукашэнка заявіў аб умяшанні ў беларускую выбарчую кампанію з-за мяжы, расказаў пра затрыманне баевікоў прыватнай вайсковай кампаніі (усе – грамадзяне Расіі).

Лукашэнка распавёў, што Беларусь паспяхова справілася з пандэміяй каронавіруса, падышла да барацьбы з ёй падрыхтаванай. Ён не абышоў бокам і альтэрнатыўных кандыдатаў, пракаментаваў іх выбарчыя праграмы.

– Як толькі разбагацелі некаторыя, прабачце, ужо непапулярна перад выбарамі, як толькі ў кішэні нешта з’явілася, яны ўжо пабеглі, пачалі крычаць: «нам хочацца больш, нам перашкаджаюць, нам стары прэзідэнт не дае працаваць і іншае». Супакойцеся: дзякуй богу, што яшчэ так жывём, – гэта прамова таксама тычылася альтэрнатыўных кандыдатаў.

**Пераказала Настасся УТКІНА.**

# Дзённік назіральніка: ці дапаможа на ўчастку бінокль?

## Як я збірала подпісы і рыхтавалася да назірання на прэзідэнцкіх выбарах

**Выраз «назіральнік на выбарах» знаёмы ўсім, але не кожны разумее, як назіранне выглядае знутры. Ці кожны можа стаць назіральнікам? Чаму для гэтага трэба навучыцца? З чым можна сутыкнуцца на ўчастку для галасавання?**

Сёлета на гэтыя пытанні я адказваю для сябе ўпершыню. І хачу падзяліцца сваім досведам з чытачамі «Рэгіянальнай газеты». Першая частка майго дзённіка прысвечана падрыхтоўцы да назірання. Сваё імя і прозвішча пакуль патрымаю ў сакрэце, але ў другой частцы абавязкова назавуся.

### 1 чэрвеня 2020 года. Добры дзень, Выбарчы кодэкс!

Учора падалася ў назіральнікі. Зрабіла гэта адразу, як пабачыла, што адна з праваабарончых арганізацый абвяшчае набор. Зрабіла гэта, амаль не думаючы, хаця раней не мела ніякага досведу. Проста адчула, што сёлета не змагу глядзець сабе ў вочы ў люстэрка, калі не зраблю ўсё ад мяне магчымае, каб дапамагчы маёй краіне правесці вольныя выбары.

> **Нават калі яны па факце не будуць свабоднымі, я змагу сказаць – прынамсі, я спрабавала рабіць тое, што магла на сваім узроўні.**

Шмат чула пра назіранне ад сяброў – некаторыя з іх нават ездзілі ў міжнародныя місіі. Адправіўшы анкету, напісала ім – як гэта? Што скажаце? І яны адказалі – малайчына, крута, гэта важны і цікавы досвед! Загрузіла на камп'ютар Выбарчы кодэкс і адчула, як мала ведала на тэму выбараў дагэтуль.

### 18 ліпеня 2020 года. Ці браць на ўчастак бінокль?

Прайшла анлайн курсы па назіранні. Эксперты па палічках расклалі, на што звяртаць увагу на датэрміновым галасаванні і ў асноўны дзень, што мы абавязаныя рабіць, а на што не маем права. Зразумела, што ніякія інструкцыі не могуць уключыць у сябе тыя сітуацыі, якія часам здараюцца на практыцы.

Напрыклад, папярэдзілі, што ў выбарчай камісіі можа быць непрадказальная рэакцыя на спробу зрабіць фота ці відэа. Выбарчае заканадаўства гэтага не забараняе, таму лагічна зрабіць выснову, што гэта дазволена. Але ЦВК часам інтэрпрэтуе норму па-свойму: калі нідзе не напісана, што здымка дазволеная, то яна забароненая.

Сказалі, што калі падчас падліку галасоў мы будзем бачыць толькі спіны членаў камісіі, то трэба іх абавязкова сфатаграфаваць – гэта найлепшая ілюстрацыя галоснасці і адкрытасці выбараў на канкрэтным участку. На пытанне: «Ці можна прыносіць на ўчастак бінокль?» эксперт адказаў – так, але наўрад ён дапаможа.

Папярэдзілі, што калі на нас будуць выклікаць міліцыю, каб мы не супрацоўляліся, нават калі відавочна нічога не парушалі. «Калі вас папросяць пакінуць участак – пакіньце».

Папярэдзілі, што выбарчыя камісіі могуць «уваскрэсіць» каронавірус і абмяжоўваць доступ назіральнікаў на ўчастак. Таму рэкамендавалі рэгістравацца як мага хутчэй. Я ж пакуль не магу гэтага зрабіць, бо чакаю накіравання на канкрэтны ўчастак.

Дакумент зробіць праз пару тыдняў і пакуль перададуць у Маладзечна. Ёсць магчымасць зарэгістравацца ад грамадзян – для гэтага трэба сабраць мінімум 10 подпісаў ад людзей, якія прапісаныя на тэрыторыі канкрэтнага ўчастка. Але я вырашыла чакаць накіравання.

У першую чаргу таму, што хачу патрапіць на ўчастак у школу, якую скончыла. Хачу глядзець у вочы настаўнікам, што вучылі мяне, а цяпер сядзяць у камісіі.

Настаўнікаў нярэдка абвінавачваюць у тым, што яны спрыяюць фальсіфікацыям, і я хачу на свае вочы пабачыць, ці так гэта. І калі супрацьпраўныя рэчы сапраўды адбываюцца, то я маю надзею, што прысутнасць былой вучаніцы, якую яны памятаюць і ведаюць, прымусіць лішні раз задумацца.




Датэрміновае галасаванне пачалося ў аўторак, 4 жніўня. На фота – СШ №14 у Маладзечне, дзе размешчаныя два ўчасткі для галасавання.

Фота Настасі УТКІНАЙ.

### 19 ліпеня 2020 года. Нас становіцца ўсё болей

Ідэю ісці ў назіральнікі пачалі прасоўваць на платформе «Сумленныя людзі» і бачна, што гэта мае вялікі водгук. З'явілася інтэрактыўная карта, на якой можна пабачыць кожны з 5767 выбарчых участкаў і колькасць незалежных назіральнікаў на іх.

Мяне гэта вельмі цешыць – цяпер акрамя акрэдытаваных ад партый і арганізацый будуць назіральнікі ад грамадзян. Магчыма, і на маім участку нехта з'явіцца, і можна будзе скаапераваца на месцы. Назіранне становіцца модным! Бачу, што мае сябры з розных гарадоў ідуць збіраць подпісы, гэта натхняе!

### 22 ліпеня 2020 года. Уваскрашэнне каронавіруса

Раніца абрушыла на нас навіну – старшыня ЦВК **Лідзія Ярмошына** зацвердзіла пастанову, паводле якой на выбарчым участку мае права знаходзіцца не болей за тры назіральнікі падчас датэрміновага галасавання і не болей за пяць назіральнікаў у асноўны дзень галасавання.

Юрысты адразу ж зазначылі – абмяжоўваць правы грамадзян можа толькі закон, а не пастанова. Аднак чакаецца, што на практыцы пастанову зраўняюць з законам.

«Рэгіструйцеся адразу ж, не чакайце накіравання ад нас, хто можа – збірайце подпісы! Тады, можа, паспееце патрапіць у запаветную пяцёрку», – парэкамендавалі праваабаронцы.

Мяне навіна страшэнна выбіла з каляіны, хаця падавалася, што я гатовая да любога павароту сюжэта. Узяўшы сябе ў рукі, раздрукавала бланк для збору подпісаў і вырашыла, што буду збіраць іх па месцы рэгістрацыі – там я хоць трохі ведаю суседзяў, і гэта будзе псіхалагічна прасцей. Так, тады не патраплю ў родную школу, як хацела, але ці мае гэта значэнне цяпер?

### 22 ліпеня 2020 года. Збор подпісаў і якія ж крутыя мае суседзі!

Вядома, сярэдзіна працоўнага дня ў серады – не лепшы час, каб заспець людзей дома. Большасці тых суседзяў, якіх хоць трохі ведаю, не было. Давялося грукацца ва ўсе кватэры запар.

У чатах назіральнікаў начыталася, якая дзіўная можа быць рэакцыя ў людзей: хтосьці не падпісваецца, бо баіцца праблем на працы, хтосьці гаворыць «а толку, усё роўна нічога не зменіцца».

Мне дадаў аптымізму першы напаткан сусед – хоць бачыла яго ўпершыню, адразу падпісаўся ў маім бланку. І далей пайшло-паехала. Ніводны чалавек не адмовіў. Наадварот – людзі дзякавалі за смеласць і рашучасць, жадалі поспехаў на ўчастку, задавалі пытанні.

У адной кватэры ўвогуле запрасілі сесці за стол і падпісаліся ўсёй сям'ёй. У выніку назбірала болей за патрэбныя дзесяць подпісаў.

Адразу ж пайшла на ўчастак. Пасля кароткай кансультацыі па тэлефоне са старшынёй камісіі зарэгістравалі ў журнале.

Я аказалася восьмай у спісе. Перада мной – адзін назіральнік ад грамадзян і прадстаўнікі дзяржаўных партый і арганізацый. Ці буду ў мяне шанцы патрапіць на ўчастак? Цяжка сказаць. Але я змагу знаходзіцца каля яго і лічыць яўку, а таксама фатаграфаваць пратаколы камісіі. Хаця нават у гэтым няма ўпэўненасці.

### 3 жніўня 2020 года. Назіральніцкая гатоўнасць №1

На выбарчых участках пачалі з'яўляцца плакаты аб тым, што відэа і фотаздымка забароненыя. Вядома, гэта парушэнне заканадаўства. Маіх матэматычных здольнасцей ужо не хапае, каб лічыць усе парушэнні, якія адбыліся цягам сёлетняй выбарчай кампаніі. Але ж мы, назіральнікі, працягваем прытрымлівацца законаў і зробім усё ад нас магчымае.

Заўтра пачынаецца датэрміновае галасаванне, і я іду на ўчастак. Атрымалася завочна пазнаёміцца з іншымі незалежнымі назіральнікамі з майго ўчастка. Падумалася, што цягам назірання завяду шмат новых знаёмстваў з класнымі людзьмі.

Раздрукавала ўсе магчымыя ўзоры скаргаў і зваротаў, выцягі з Выбарчага кодэкса і Канстытуцыі. Такой порцыі юрыдычных ведаў мой мозг не памятае з часоў школы. Недарма сябры казалі, што назіранне – новы і цікавы досвед.

Што чакае мяне заўтра? Не бяруся прагназаваць, бо кожны дзень прыносіць сюрпрызы. Пра тое, як прайшло для мяне назіранне за галасаваннем, распавяду наступным разам. Трымайце кулачкі, каб усё было добра!

**Назіральніца ад грамадзян у Маладзечне.**

## «Дынама» можа сутыкнуцца з фінансавымі цяжкасцямі

Галоўны трэнер маладзечанскага «Дынама» **Канстанцін Кальцоў** заявіў, што клуб, верагодна, сутыкнецца з фінансавымі цяжкасцямі ў новым сезоне.

Пра гэта Кальцоў паведаміў у праграме «Арэна» на тэлеканале АТН.

– Давайце без лічбаў. Бюджэт у нас меншы, чым у мінулым сезоне. Сустракаліся з кіраўніцтвам Мінскай вобласці, выслухалі яны нас і разумеюць сітуацыю, але зноў жа... Няпростая эканамічная сітуацыя ва ўсіх краінах у сувязі з гэтым вірусам. Таму таксама хлопцам патлумачылі: магчыма, будуць затрымкі, але нават па мінулым сезоне з усімі даўжнікамі разлічыліся, таму пытанняў ніякіх няма.

Нагадаем, што ў мінулым сезоне гульцы маладзечанскай каманды распавядалі пра затрымкі па заробках. Менавіта па гэтай прычыне, як распавялі хакеісты ў судзе, яны і згулялі дамоўны матч з «Магілёвам» у лістападзе 2019 года.

**АТН.**

## Станіслаў Кучкін прасіў прабачэння ў маладзечанскіх заўзятараў

Форвард маладзечанскага «Дынама» **Станіслаў Кучкін** папрасіў прабачэння за ўдзел у дамоўным матчы з «Магілёвам». Гэта паказалі ў відэазвароце, якое апублікавала прэс-служба маладзечанскага «Дынама».

– На жаль, я апынуўся замешаным у гэтым матчы, за што быў падвергнуты грашоваму штрафу і дыскваліфікацыі тэрмінам на адзін год. Лічу гэта пакаранне абсалютна заслужаным і справядлівым. Яшчэ на стадыі разгляду я глыбока і шчыра раскаяўся. Сябры, я разумею, як вы ў мяне верылі і якія ўскладалі на мяне надзеі. На жаль, я падвёў вас. Тым больш, што Маладзечна стала для мяне другім домам.

Кучкін звярнуўся да маладых хакеістаў і выхаванцаў дзіцячых школ. Сказаў, што гэты інцыдэнт паслужыць урокам для іх на будучыню. Спартсмен упэўнены, толькі сумленная барацьба зробіць людзей паважанымі і ўпэўненымі ў сабе.

– Хачу публічна раскаяцца і папрасіць прабачэння ў заўзятараў, хакейнай грамадскасці і ўсіх аматараў хакея за зробленае. Дарыце мне.

**Прэс-служба «Дынама-Маладзечна».**


Фота pressball.by

На лаўцы абвінавачаных – Іваноў, Сырэй, Шэлег.

# Суд па дамоўным матчы працягваецца

**У судзе Маскоўскага раёна адбылося перадапошняе пасяджэнне па справе нашумелага дамоўнага матча паміж маладзечанскім «Дынама» і «Магілёвам».**

Працэс, дзе падсуднымі з'яўляліся хакеісты маладшых «зуброў» **Аляксей Іваноў**, **Мікіта Усціненка**, **Сяргей Шэлег** і **Аляксандр Сырэй**, завяршыўся.

**На аўторак, 25 ліпеня, былі запланаваныя спрэчкі бакоў. Да гэтага ўжо чацвёра хакеістаў прызналі сваю віну.**

### Вялікія штрафы і ўмоўныя тэрміны

Пракурор **Валерыя Сергіенка** палічыла, што віна абвінавачаных цалкам даказаная па ўсіх інкрымінаваных артыкулах, уключаючы не толькі ўдзел у дамоўным матчы, але і распаўсюджанне парнаграфічных матэрыялаў.

**Пракурор нядоўга затрымалася з прамовай. Яна тлумачыла, якога менавіта пакарання жадае бачыць для чацвёркі былых маладзечанскіх хакеістаў.**

Пракурор не настойвала на суровым пакаранні ў дачыненні да **Мікіты Усціненкі**. Журналісты «Прэсбола» паведамляюць, што па іх інфармацыі, верагодна, Усціненку чакае амністыя з нагоды 75-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і ў сувязі з чарнобыльскім мінулым.

У трох астатніх хакеістаў іншая сітуацыя. **Аляксею Іванову** пракурор Сергіенка запрасіла штраф у памеры 500 базавых велічынь (13,5 тысячы рублёў). Аляксандру Сырэю і Сяргею Шэлегу – тры гады пазбаўлення волі з умоўным непрымяненнем на працягу двух гадоў і штрафу ў 100 базавых (2,7 тысячы рублёў). Калі на працягу двух гадоў будзе рэцыдыў, абодвум прыйдзецца панесці пакаранне ў дадатак да таго, якое можа чакаць за новае злачынства.

### Змякчальныя абставіны і апошнія словы адвакатаў

Маналогі боку абароны таксама не зацягнуліся.

**Адвакаты Сырэя, Шэлега і Іванова аднадушна прасілі аб ласцы для падабаронных.**

Малалетнія сыны на ўтрыманні, поўнае раскаянне віны і садзейнічанне следству, цяжкае матэрыяльнае становішча, нізкая грамадская небяспека падсудных і дасканалых імі дзеяў – на гэтых і іншых акцэнтах, належных стаць змякчальнымі абставінамі, будавалася іх гаворка. Яны, змякчальныя абставіны, быццам былі ў кожнага. А ў кагосьці – асаблівыя. Напрыклад, гонар дзяржавы.

– Грамадства пільна сочыць за працэсам і выказвае занепакоенасць у сувязі з пакараннем для абвінавачаных... Але хацелася б адзначыць, што Сяргей Шэлег абараняў гонар краіны ў складзе зборнай. Ён ганарыцца сваёй дзяржавай! На падставе артыкула 70 Крымінальнага кодэкса лічу магчымым прасіць прызначыць падабароннаму пакаранне ніжэй ніжняй мяжы, прадугледжанае па інкрымінаваных артыкулах, – прасіў адвакат Шэлега.

Больш за ўсіх выступаў адвакат Аляксея Іванова. Па-першае, да спрэчак бакоў чалавек, які прадстаўляў былога варатара «Дынама-Маладзечна», змяніўся. Па-другое, пракурор запрасіла для Іванова найбольш суровы прысуд.

– Роля Іванова ў дамоўным матчы была не такая актыўная. Плюс трэба ўлічваць, што яму раней ужо паступала прапанова ўдзельнічаць у дамоўнай гульні. У дзень матча ў майго падабароннага адсутнічаў інтэрнэт.

**Больш за тое, ён увогуле не павінны быў удзельнічаць у гульні супраць «Магілёва». А прычына таго, што ён апынуўся ўцягнуты, – нявыплата заробку. Калі беларусы маглі разлічваць на фінансавую падтрымку сям'і, то Аляксей – не.**

Сёння ў СМІ гучыць: маўляў, ну і што, што ім не плацілі грошы. Нібыта ўсё роўна яны павінны выходзіць на лёд і гуляць. Не спрачаюся: вядома, павінны. Але давайце ўсе сябе паставім на іх месца. Тэзіс «быццё вызначае свядомасць» ніхто не адмяняў. Немагчыма галоднага чалавека прымусіць думаць пра гонар і сумленне.

**Засталося толькі нявысветленым, што за прапанова аб дамоўным матчы Іванову паступала раней і ад каго. А самае галоўнае – ці паведаміў ён пра гэта праваахоўным органам, як таго патрабуе заканадаўства.**

Цяпер ад абвінавачання і абароны ўжо нічога не залежыць. Свае слова яны выказалі, засталося яшчэ выступіць кожнаму з чацвёркі хакеістаў. Гэта яны зробяць ужо ў першай палове жніўня. «Рэгіянальная газета» будзе распавядаць падрабязнасці.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Масавы сход для абмеркавання якіх-небудзь палітычных або іншых надзённых пытанняў.
3. Травяністая расліна сямейства губакветных з моцным пахам, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфумерыі і кандытарскай справе.
6. Невялікая кілбаска, якую ядуць у вараным выглядзе.
7. Народны сход гэтага полісу складаўся з грамадзян ад 30 год. Галасавалі там воклічамі нязгоды або адабрэння, не падлічваючы галасы. Панаваў прынцып – хто гучней крыкне, той і мае рацыю.
9. Невялікая арганізацыйная група; адзінка, якая ўваходзіць у склад якога-небудзь буйнога аб'яднання.
10. Чалавек, які дае сваю кроў для пералівання хворым.
11. Падабраныя і прыгожа складзеныя ў пучок кветкі.
12. Невялікі сакавіты плод некаторых куставых і травяністых раслін.
18. Навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых ці спецыяльных сярэдніх навучальных установах.
19. Завязка са стужкі ў выглядзе вузла і дзвюх або некалькіх свабодна выпушчаных петляў.
22. Ліпкае рэчыва, якое выкарыстоўваюць для трывалага змацавання.
24. Раўнавага, ураўнаважванне.
25. Зацвярджэнне вышэйшай інстанцыяй якога-небудзь акта, што надае яму прававую сілу.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Тое, да чаго імкнуцца, чаго жадаюць дасягнуць.
3. Тое, што і мышца.
4. Вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі і якая кіруе іх дзейнасцю.
5. Ужываецца замест назоўніка множнага ліку, які ў папярэднім кантэксце абазначае прадмет гаворкі.
7. Халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў, а таксама рэчаў.
8. Свята ўвосень, 8 верасня.
10. Адзнака аб паспяховасці ў пяцібальнай сістэме са значэннем дрэнна.
13. Тое, што прыбаўляецца.
14. У гэтай краіне насельніцтва аднадушна галасавала за прэзідэнта Хасэ Мухіку раз за разам. Ён сам адмовіўся ад пасады, бо палічыў, што яму патрэбны адпачынак. І ўвайшоў у гісторыю як самы бедны і сумленны прэзідэнт.
15. У ЗША дзень правядзення выбараў не змяняецца. Яго прызначылі яшчэ ў 19 стагоддзі, калі да выбарчых участкаў даводзілася доўга ехаць. Па суботах людзі працавалі, у нядзелю хадзілі ў храм, а серада была базарным днём.
16. Спецыяліст у галіне права.
17. Пра значную адлегласць да нечага.
20. Палітыкі імкнуцца ніколі не насіць сонечныя акуляры, таму што іх адсутнасць дапамагае захаваць ... .
21. Трываласць, мацунак.
23. Асоба, якая вядзе справаводства, канцылярыю якой-небудзь арганізацыі або перапіску і справы прыватнай асобы.
24. Нізкае топкае месца, грузкае балота.

## Адказы на крыжаванку з №31

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Прасіць. 3. Код. 4. Ідыёт. 6. Аванс. 7. Кісларод. 8. Знічка. 11. Крыло. 14. Калумб. 16. Мінус. 17. Адрас. 19. Чыноўнік. 20. Макет. 22. Радок. 23. Арэнда. 24. Ушачы. 25. Рэкорд.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Малітва. 2. Падатак. 5. Масаж. 9. Народ. 10. Рэалізм. 12. Асалода. 13. Выбары. 15. Магніт. 18. Покер. 21. Клічнік. 23. Асоба. 26. Кроў. 27. Свабода.

## ГАРАСКОП НА 7-13 ЖНІЎНЯ

**АВЕН.** Вельмі спрыяльны час для размоў, дыскусій, абмеркаванняў. Вы любога зможаце ўпэўніць у сваёй праваце, толькі запасіцеся сур'ёзнымі аргументамі. Не забывайце, што для некаторых важней не столькі тое, што кажуць, колькі тое, як.

**ЦЯЛЕЦ.** Незвычайны перыяд для вас, поўны сюрпрызаў. Прычым нават фінансавых, чаго вы зусім не чакалі. Не пужайцеся сур'ёзнай нагрузкі, вельмі хутка вы ўбачыце, што гэтыя высілкі прыносяць плён. Пастарайцеся захоўваць пазітыў.

**БЛІЗНЯТЫ.** Тое, як вы сябе пакажаце ў сумеснай працы, многае скажа пра вас. Пастарайцеся праявіць цярплівасць і працаздольнасць. Важна, наколькі працавітым камандным гульцом вы сябе пакажаце. Гэта адаб'ецца на вашым жыцці на працяглы час.

**РАК.** У гэты час вам давядзецца клапаціцца пра інтарэсы іншых людзей, а не свае. Вас чакае цудоўная навіна, якая сур'ёзна паўплывае на жыццё. Зоркі раяць з усёй адказнасцю падысці да спраў, прычым не толькі справамі, але і настроем.

**ЛЕЎ.** Зоркі папярэджваюць, што вам неабходна захоўваць засяроджанасць і пільнасць. Уважліва стаўцеся да слоў – як сваіх, так і іншых. Так вы зможаце своечасова папярэдзіць непрыемнасці.

**ДЗЕВА.** Перамены будуць выклікаць у вас адначасова і радасць, і невялікую боязь. Але пастарайцеся супакоіцца. Усё ідзе да лепшага. Не спрабуйце вырашыць усе пытанні, вазьміцеся за тое, за што адказваеце менавіта вы.

**ШАЛІ.** Лепш не выпраўляцца ў далёкую паездку, таму што вашай пільнай увагі будуць патрабаваць справы на сваім месцы. Не бярыце на сябе зашмат, частку абавязкаў смела давярайце блізкім, якім давяраеце. Так вы зможаце справіцца хутчэй і меншымі высілкамі.

**СКАРПІЁН.** Вас чакае перыяд, калі спатрэбіцца адшукаць у сабе максімальную раўнавагу і спрабаваць ураўнаважваць іншых. Вы зможаце аказаць бяспеку іншым, прычым не толькі літаральна, але і надаць пачуццё бяспекі тым, хто пачне яе губляць.

**СТРАЛЕЦ.** Сур'ёзнай перашкодай для вас стануць чуткі, якія не будуць мець пад сабой ніякіх праўдзівых сцвярджэнняў. Захоўвайце спакой і прыводзьце ў адказ дакладныя аргументы.

**КАЗЯРОГ.** Каб абмеркаваць супрацоўніцтва і вырашаць спрэчныя пытанні, старайцеся сустракацца з суразмоўцам асабіста. Так вы зможаце і дасягнуць сваёй мэты, і пакінуць апанента задаволеным.

**ВАДАЛЕЙ.** Зоркі рыхтуюць для вас неверагодна ўдалы тыдзень. Усё, пра што вы па-сапраўднаму марылі, гатова прыплысці проста ў рукі. Але галоўная ўмова, каб гэта атрымаць, – заставацца сумленнымі, найперш з самімі сабой.

**РЫБЫ.** Галоўным памагатым для вас стане інтуіцыя. Давярайце ёй і пастарайцеся зразумець, чаго жадае ваша сэрца. Заставайцеся шчырымі і часцей усміхайцеся.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | | 5 | 2 | |
| 5 | 8 | | 1 | | | | | 6 |
| | 6 | 2 | | 4 | | | | 8 |
| 6 | 9 | | 5 | | | | | |
| 4 | | 1 | | | 7 | | 8 | |
| | 3 | | | | | 9 | | 1 |
| | | | 4 | | 1 | 3 | | |
| 2 | | | | 7 | | 8 | | |
| | 4 | 3 | 2 | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета.

Rh.by



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Што для вас з’яўляецца сімвалам гэтай выбарчай кампаніі?



**Алег Буслаеў, тэхнік, Маладзечна:**
– АМАП, уся наша доблесная міліцыя і суды.



**Алена Бяганская, спецыяліст па рабоце з кліентамі, Маладзечна:**
– Бел-чырвона-белы сцяг, сімвалы аб’яднаных штабоў, белая стужка на руцэ.



**Ганна Гайворан, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Для мяне сімвалічныя белы бранзалет, сэрца, і, вядома, жаночае трыа.



**Вольга Мірал’я, настаўніца, Маладзечна:**
– На жаль, для мяне няма сімвалу менавіта гэтай выбарчай кампаніі. Ужо больш за пяць гадоў жыву ў Італіі. Для мяне ёсць гадамі нажытыя сімвалы маёй краіны, дарэчы, шмат. Вельмі сумую па краіне, і няма лепшага месца.



**Яўгенія Курэц, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Каб наш дзеючы прэзідэнт і далей заставаўся прэзідэнтам. Тады будзем жыць усё лепш і лепш.



**Таццяна Сафонава, фатограф, Маладзечна:**
– Сімвал – беззаконне. Каб яго не было, людзі б не баяліся і былі пад аховай. Нават на выбары ўсе пойдуць, раней не хадзілі, а цяпер пойдуць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

# Як прайшлі ў пандэмію фестывалі мыльных бурбалак, фарбаў і ліхтарыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 2 жніўня, у Маладзечне, у гарадскім парку Перамогі, згадзілі некалькі фестываляў.

Зусім маленькім прапанавалі мыльныя бурбалкі, моладзі – фарбы і ўсім – ліхтарыкі.

Нягледзячы на пандэмію, людзей у парку сабралася шмат. Пабачыць мыльныя бурбалкі і вядучых-персанажаў мультфільма змаглі тыя, хто стаяў ля сцэны, і тыя, хто сядзеў на плячах у татаў і дзядуляў.

Пасля бурбалак быў холі-фестываль, дзе моладзь танцавала і кідалася фарбамі. Калі сцямнела, пачаўся фестываль ліхтарыкаў.

**Аддзел інфармацыі.**




Падчас фестывалю фарбаў.

## Чытайце праз тыдзень:

● Беларускі палітык, дыпламат і гісторык Пётр Краўчанка прыгадае сваё дзяцінства, падзеліцца, чым блізкія для яго Вілейшчына і Маладзечаншчына, раскажа пра шматлікія замежныя паездкі.



## 8 жніўня, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 2-3 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР’Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +6,2°С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +34,4°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 30,8 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№32 (1319) 7.08.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1309. Падпісана ў друк у 9.00 6.08.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.